

Уік-энд у стылі дыска→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Песні вёскі Гусакі→8

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 06 (2961) Год LVIII | Беласток, 10 лютага 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Штось з нічога:
## мастацкая біжутэрыя Дароты Сульжык

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

— Я і сама не ведаю адкуль такая каляровая, — у голасе Дароты Сульжык адчуваецца здзіўленне і адначасова ведання. Яе свет мастацкай біжутэрыі, лямцаваных (фільцаваных) брошак і шаляў гэта пакуль прыадкрытае акенца, праз якое яна сама глядзіць з недаверам...









Напэўна дапамагаюць каментары на інтэрнэт-старонках, дзе паказаны яе лямцаваныя шалікі, брошкі, завушніцы, круглячкі... Пра іх пішуць жанчыны (ды не толькі) у найбольшым захапленні: *цудзенька! прыгожасць! фантастыка!*

Але сам здымак гэта далёка не ўсё тое, што ўяўляе сабой у дотыку фільцаваны шалік ці брошка Дароты Сульжык. Хопіць іх дакрануцца, надзець ці прышпіліць да вопраткі, каб адчуць іх каляровую аўру, цяпло, нейкую падымаючую ўверх сілу...

— У час, калі ўзнікае такая кветка, я інтэнсіўна думаю пра тую асобу, якая яе заказала, — прызнаецца Дарота. — Мабыць тады і з'яўляецца штосьці такое. Метад не ўзяўся з нічога, проста *кліенткі* Дароты гэта найперш сяброўкі, знаёмыя, сваякі.

* * *

Я сама не ведаю як пачаць размову пра біжутэрыю, шалі, габелены! Дароту Сульжык ведаю як аўтарку знакамітых рэпартажаў, якія друкаваліся ў „Часопісе”. Яна таксама настаўніца, маці цудоўных дзяўчатак Соні і Лены, жонка журналіста і настаўніка Юркі Сульжыка... Таму на пачатак спытаю пра яе любімае спалучэнне колераў: чырвонага і зялёнага. Гэтая прыкмета відавочная нават у знешнім выглядзе дома, які хоць стаіць у гарадскім пасёлку Валілы-Станцыя, напамінае лясны дворык, лецішча, хату з дзіцячай казкі. Дом, як скажуць мне яго гаспадары, самі праектавалі, малявалі, прыдумалі інтэр'ер.

— Чырвоны і зялёны для мяне — улюбёнае спалучэнне, — кажа Дарота. — Тут толькі патрэбны шырокі састаў адценняў, бо многія варыянты чырвань-зелень не падыходзяць да сябе, канфліктуюць. На пацвярджэнне тэорыі — колеры ў прыёмным салоне. Да зялёна-аліўкавай падлогі тут падабралі (Дарота шукае найперш назву для гэтага колеру) *цагляны ласось*.

— Нават у ліцэі клас памаляваны ў мае колеры, — дадае.

— А ці ў сям'і ўсе адабраюць такі выбар?

— Раз толькі пакрытыкавала мяне цёця, — прыгадвае гісторыю трынаццацігадовай даўнасці мая субяседніца. — Калі яна пабачыла нашы сцены, сказала, што мы змарнавалі хату...

* * *

— Калі пачалася Твая прыгода з мастацкай біжутэрыяй?

— Тры гады таму, але захапленне рукадзеллем было ў мяне заўсёды, — чую ў адказ.

Першым натхненнем і ўзорам была родная бабуля Ніна Антановіч з Гарадка. Яна ўмела ўсё пашыць, выткаць, звязаць на кручку і прутках. Калі сваякі з Аўстраліі дасылалі ім апранахі, бабуля, ацаніўшы якасць матэрыялу, перарабляла нямодныя касцюмы на маладзёвае адзенне паводле апошняй моды. Будучы ліцэісткай, Дарота таксама мела ўжо мянушку арыгіналкі. Пра яе сябры гаварылі: *Ta co w kapciach*. Мянушка ўзнікла па прычыне яе тапачак, прыздобленых габеленам.

— На кожны год я рабіла новыя тапці, таму яны былі прыкметнымі. Пасля ўжо ў студэнцкія гады габеленавыя-фільцаваныя тапці зрабіла Юрку, свайму будучаму мужу.

— З той біжутэрыяй, — удакладняе Дарота, — пачалося намнога раней. Я пачала рабіць аздобы яшчэ ў ліцэі. На ўласны ўжытак. Задумы для драўляных *вісёраў* выспявалі на ляту, часта падказваў сам матэрыял, экзатычнае насенне, фактура драўніны. Сяброўкі глядзелі на мае аздабленні з недаверам: — *Ты заўсёды зробіш штосьці з нічога!*

У прыёмным салоне першы мастацкі твор маёй субяседніцы — габелен, зроблены яшчэ ў гады пачатковай школы. Яркія спалучэнні колераў напамінаюць каляровага зубра на лагатыпе Падляшскага ваяводства. Менавіта непадалёк хаты Сульжыкаў знаходзіцца дом, у якім нарадзіўся Лёнік Тарасэвіч:

— Я была першай, — жартуе Дарота, калі параўноўваю колеры яе першага габелена са славутым зубром Тарасэвіча.

* * *

Пасля пяройдзем у найважнейшае месца — у майстэрню, каб пaглядзець на жывы працэс фільцавання (лямцоўкі). Такі занятак патрабуе не толькі вынаходлівасці і часу, але і фізічнай сілы. Калі прыйдзецца стаяць пры варштаце некалькі гадзін, стомленасць адчуваецца пасля ў пазваночніку.

— Я люблю давесці справу да канца, — кажа Дарота. — Мне заўсёды цікава як канчаткова атрымаецца шалік. Не ведаю ці па дарозе нешта „дойдзе”, папоўніцца.

Найбольш сілы патрабуе ўкладанне кампазіцыі на матэрыяле.

— Гэта жывы працэс, якому трэба аддаць шмат псіхічнай сілы. Тут працуюць не толькі галава, але і рукі, цела ды засяроджанасць усёй сям'і. Бо хопіць, каб нехта нечакана лопнуў дзвярыма і ўся работа разляціцца...

Каб паказаць як выглядае праектаванне шаліка, Дарота дабывае дзесяткі адценняў часанкі і ўкладае з іх кветку (пасля яе трэба доўга размантоўваць). Пры рабоце гаворым пра нашых дзяцей, пра цукровыя і вегетарыянскія дыеты, пра спяванне і калядаванне. У сям'і Сульжыкаў відавочная пераемнасць мануальна-мастацкіх здольнасцей. Іхняя Соня вывучае ўрокі малявання і капіруе карціны вядомых мастакоў.

— І яна таксама падбірае творы, дзе яркая каларыстыка. Мне дзіўна, калі яна кажа, што падабецца ёй Шагал. Малодшая Лена захапляецца музыкай, літаратурай, тэатрам....

— То пакажу яшчэ мае аўтарскія праекты, — нясмела прапануе гаспадыня, — *круглячкі і арыядны*. Адкуль такія свойскія назвы? Круглячок ад круглых дываноў робленых кручком, а арыядны — з грэчаскай міфалогіі. Яны маюць такі пакручасты арнамент на беражку.

Каб належным чынам ацаніць вынаходства маёй гераіні, трэба сказаць галоўнае. Увесь складаны працэс фільцавання яна асвоіла сама, з інтэрнэту. Такім шляхам атрымоўвае матэрыялы і трымае кантакт з *кліентамі*. Апошняе слова Дарота вымаўляе з сяброўскай цеплынёй.

* * *

У госці ў Валілы-Стацыю я паехала з канкрэтнай мэтай. Раней мы дамовіліся, што Дарота выканае для мяне фільцаваную брошку. Аздобу я планавала падарыць сваячцы, але пра гэта майстрыха не ведала. Таму ў час працы яе ўвага была накіравана ў бок маёй асобы. Пасля, калі кветка апынулася на вопратцы абдараванай асобы, сваякі, не ведаючы пра метафізічную тэхніку Дароты Сульжык, адразу згодна загаварылі пра маю асобу:

— *А гэтая кветка то быццам знятая з нашай Гандзі!*





# Добрымі намерамі

Думаю, што ў гэты юбілейны год кожны беларус, які хоць недзе друкуецца і выказвае свае думкі ў пісаным выглядзе, абавязкова напіша пра паўстанне Кастуся Каліноўскага. Час зараз такі, калі прадстаўнікі беларускай цывілізацыі пачынаюць шукаць у сваёй гісторыі славутыя постаці, жыццё і дзейнасць якіх можа стаць разгадкай таямнічага беларускага характару, у якім яшчэ самі беларусы не тое што да канца не разабраліся, але, здаецца, заселі недзе ў самым пачатку.

Чаго толькі варты анекдот, з якога напачатку смяецца кожны беларус, а пасля сплёўвае і хмурна крочыць у невядомым накірунку бясконца абураны.

„Пытаецца неяк у беларуса рускі:

— Скажите, а как на белорусском языке будет звучать слово „вперёд".

— Наперад, — ганарова адказвае беларус.

— О-о-о! Какое уверенное слово! А как тогда на вашем языке будет слово „назад", — не ўгамоньваецца дапытлівы ўсходні госць.

— А ў нас няма „назад", — задумліва адказвае беларус. — Нам як трэба назад, то мы рэзка разварочваемся і наперад".

Сапраўды цікавая рыса беларускага характару. Толькі наперад. Ды вось кірунак толькі б выбраць правільны, глядзіш і ўсю планету даўно абагналі б. Але ж мы як у адваротным кірунку нясёмся, таксама думаем, што ляцім наперад. Можа таму і топчамся на месцы, паміж мінулым і будучым. Таму і мовы ў Рэспубліцы Беларусь дзяржаўныя дзве, два Новыя гады, і нават два розныя дні Божага Нараджэння. Як гэта не смешна выглядае, але так афіцыйна ў дзяржаўным календары свят запісана. У нас шмат яшчэ чаго парнага, як у кожнага, хто замест каб спакойна крочыць куды-небудзь, пачынае мітусіцца не ведаючы што выбраць. І зараз са здзіўленнем беларусы даведаліся, што ў нас і на паўстанне Кастуся Каліноўскага таксама ўзніклі два погляды.

І я не маю на ўвазе плявузгання ідэалагічных работнікаў, якія дзеля сваёй карысці пры неабходнасці з лёгкасцю маладой казулі прададуць не толькі прозвішча Каліноўскага, але і ўсе астатнія прозвішчы, уключаючы і тыя, перад якімі зараз выслужваюцца. Я маю на ўвазе беларусаў, для якіх беларускасць напраўду святое.

Аказваецца, каб гэтае паўстанне з упэўненасцю можна было б назваць беларускім, некаторым звышаб'ектыўным гісторыкам не хапае некалькіх дробных дэталяў. Такіх, прыкладам, як асабістага пашпарта Кастуся Каліноўскага, дзе чорным па белым у графе „нацыянальнасць" мусіць быць надпіс „беларус", у графе „веравызнанне" — надпіс „тайны праваслаўны", а на вокладцы — герб з зоркай наверсе і надпісам „Рэспубліка Беларусь" на трох мовах: беларускай, ангельскай і, абавязкова, рускай.

Ды і на постаці правадыра паўстання сумненні некаторых разумнікаў не скончыліся. Пад сумненне ставіцца вартасць самога паўстання. Маўляў, расейскія акупацыйныя ўлады рыхтавалі рэформы па беларусізацыі?! А паўстанне іх нібыта звярнула...

Ну, што ж. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ў нас усе акупанты былі надзвычай добрыя. Некалі гітлераўскія акупацыйныя ўлады, а яшчэ пазней савецкія, таксама беларускамоўную газету выдавалі. А мы, атрымліваецца, дурні, што змагаліся з імі і не далі нас ашчаслівіць?!

Няма чаго сказаць далей. Толькі вось прымяраючы гэтую вопратку на сябе і свой час, разумееш, што некалі з'явяцца даследчыкі, якія паводле знойдзеных у архівах сённяшніх акупантаў дакументаў зробяць высновы, што цяперашнія апазіцыянеры былі людзі нікчэмныя. Амаль усе беспрацоўныя, па многа разоў арыштоўваліся за знаходжанне ў людных месцах у нецвярозым стане і неаднаразова былі караныя за брудную лаянку на расейскай мове. Якія ж яны беларусы?! А вось сённяшні беларускі рэжым рыхтаваў рэформы па дэмакратызацыі, беларусізацыі і нават па паляпшэнню выбарчага заканадаўства. Ды і шмат добрага рыхтаваў. Дакументаў, якія гэта пацвярджаюць — безліч. А вось гэтыя недальнабачныя апазіцыянеры, маўляў, сваёй Плошчай вымусілі ўлады звярнуць усе іх добрыя намеры...

Ну, а што добрымі намерамі выбрукаваная адна вельмі шырокая дарога ў пекла, некаторыя даследчыкі не задумваюцца. Гістарычных дакументаў наконт гэтага бракуе.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Справа не для «Справы для рэпарцёра»

Тэлеграграма Альжбеты Яваровіч «Справа для рэпарцёра», якая займаецца сацыяльнымі праблемамі, карыстаецца неслабеючым зацікаўленнем гледачоў. Яе героямі з'яўляюцца наогул асобы, якіх пакрыўдзілі або з-за эгаізму найбліжэйшага асяроддзя, у якім яны экзістуюць, або з-за невуцтва чыноўнікаў, або нахабнасці прадстаўнікоў апарату правасуддзя. Кожны раз праграму глядзяць каля 4 мільёны асоб. Ад чаго бярэцца гэтая папулярнасць? З аднаго боку гледачы маюць змрочную забаўку — настолькі яна змрочная, што абапіраецца на чалавечую, аўтэнтычную драму, з другога — адчуваюць сябе яны сугероямі, таму што не адзін з іх ацёрся аб падобныя праблемы ўласнай скурай. Сацыяльны эгаізм ды бессардэчнасць прадстаўнікоў дзяржаўных і самаўрадавых устаноў пашыраюцца. Можна рызыкнуць сцвярджэнне, што кожны з нас мае вялікія шанцы стаць такім тэлегероем. Таму для большасці гледачоў агучанне кожнай крыўды становіцца настойлівай неабходнасцю. Таму што толькі тады ананімная крыўда можа стаць публічнай. А такой ніхто не адважыцца схаваць пад сукно. Таму калі на вачах мільёнаў пакрыўджаны Кавальскі атрымае кампенсацыю за нанесеную шкоду, дык аднаразова ў мільёнах галоў адраджаецца асабістае перакананне, што ні адна чалавечая крыўда не будзе схавана пад сукно. Таксама гэтая ўласная — яшчэ нязздзейсненая, ды не немагчымая. Ой, якая ж гэта дарэмная вера! Але ж і так тэлепубліка, гледзячы на шчасце Кавальскага, чэрпае ад гэтага сапраўднае задавальненне.

Сёння прасацыяльнымі перадачамі хваліцца ўсе сур'ёзныя тэлестанцыі. Публічная TVP, апрача «Справы для рэпарцёра», выпускае таксама заслужаны «Магазін экспрэсу рэпарцёраў». Польсат мае сваю перадачу «Państwo w państwie", TVN — „Uwaga" і да г.п. Трэба толькі цешыцца, што сацыяльная журналістыка квітнее ў Польшчы як ніколі раней. Ды гэта таксама прычына для трывогі. Шматлікасць і жывучасць усіх такога тыпу праграм сведчыць таксама аб паглыбляючымся распыленні грамадства, як і пагардлівасці дзяржавы ў адносінах да грамадзян. Без абразы журналістаў, якія ў абароне пакрыўджанага чалавека не шкадуць старанняў, каб папракнуць яго найбліжэйшае атачэнне ў бессардэчнасці, суддзяў і пракурораў у напыхлівасці, а чыноўнікаў у дурноце, трэба ж спытацца: а дзе ж дзяржава? Дзе ёсць дзяржава, якая паклікана для грамадскай службы? Ці разгортвае яна клапатлівую юрыдычную і адміністарцыйную апеку над кожным грамадзянінам? Дзе ж тая дзяржава, якая ў імя грамадскага дабра пастаянна ачышчаецца з усяляких інстытуцыйных і заканадаўчых карцынаматозаў? Няма такой дзяржавы.

Ці даходзіць да нейкай залежнасці паміж сацыяльным эгаізмам і наступаючай антыграмадзянскай варожасцю дзяржаўных устаноў? Несумненна, так. Трэба, аднак, заўважыць, што нішто не адрознівае прадстаўляючых дзяржаву або яе адміністрацыю чыноўнікаў ад большасці сумленных грамадзян. І адны, і другія, у большасці гэта добрыя людзі. Але як гэта адбываецца, што тыя другія перад чалавечай крыўдай хаваюць галаву ў тэлевізар, а тыя першыя ў час выконвання службовых абавязкаўператвараюцца ў бяздушныя лялькі, кіруючыя чалавечай пакутай так, быццам яна была вытворнай адпаведных пунктаў кодэксу, а не чалавечай, жывой драмы? Цяжка адказаць на гэтае пытанне. Мабыць, гэта вынік глыбокага грамадскага расстрою, які выражаецца стратай чалавечай салідарнасці, а гарантам якой заўжды была дзяржава. А можа прычын гэтага трэба шукаць у рассыпаючайся дзяржаўнасці ў яе традыцыйным разуменні. І не толькі на польскім грунце. Бо трэба прызнацца, што ў час глабалізму, прыгнятаючага чалавечыя адзінкі, тыраніі ананімнага прыбытку, дзяржава, кожная дзяржава прымае ў адносінах да яго штораз больш ролю служыцеля. Бо калі каштоўнасць чалавека зводзіцца да яго вытворчай эфектыўнасці і затым спажывецкай актыўнасці, галоўнай функцыяй дзяржавы становіцца ўтрыманне як найменшага беспрацоўя і як найвышэйшай прадукцыйнасці прадпрыемстваў. З-за гэтага страчвае яна з поля зроку чалавека — пенсіянера, хранічна хворага ці патрабуючага сацыяльнай падтрымкі неўдалоты. Хіба што дапхаецца ён са сваёй справай да тэлебачання. А тады ўсё тое, што папсаванае, ладзіцца неяк само па сабе. Ці неяк так падобна.

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Падарожжа ў Мінск



Так неяк склалася, што я яшчэ ніколі не трапіў у Мінск. Усе мае беларускія дарогі ніколі не беглі ў гэты горад сонца, як яго назваў пісьменнік, мастак, выдавец культавага журнала „pARTisan" Артур Клінаў. У канцы студзеня беларуская сталіца адкрыла ўрэшце перада мною свае дзверы. А гэта дзякуючы Агнешцы Карыткоўскай-Мазур, дырэктарцы ад гэтага сезона Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, якая запрасіла мяне ў Мастацкую раду гэтага тэатра і папрасіла мяне як сябра Рады, каб я ёй спадарожнічаў у трохдзённым тэатральна-рабочым візіце ў беларускую сталіцу. Апрача яе нас было чатырох (чытайце першы з тэкстаў аб пабыўцы ў Мінску на 12 старонцы). Графік візіту быў шчыльны, тым больш, што аднаму з нас (не мне) невядома чаму візу — як усім бясплатную, службовую — выдалі толькі ў дзень выезду, што спрычынілася да таго, што рушылі мы ў дарогу тры гадзіны пазней чым планавалі. На шчасце, дзякуючы ветлівасці польскай Памежнай аховы не мусілі мы доўга стаяць на мяжы ў Баброўніках. Дарэчы, чарга тут не цягнулася так як бывала гэта ў апошні час на пагранпераходзе ў Кузніцы-Беластоцкай. За тыя хвіліны чакання меў я першую нагоду здаўна, каб разгледзецца як гэта ёсць з гэтым пагранпераходам з пункту гледжання звычайнага грамадзяніна перасякаючага тут польска-беларускую мяжу, а не журналіста, якога пару месяцаў таму падляшскі ваявода Мацей Жыўна і пасол РП у Мінску Лешак Шарэпка запрасілі ў Баброўнікі на прэс-канферэнцыю, каб паказаць яго еўрапейскую функцыянальнасць. Ну і вялікае расчараванне. Несумненна, сам пагранпераход адаптаваны да спраўнага кантролю, ды што там робіцца, заслугоўвае асуджэння. Метраў дваццаць ад уезду на яго тэрыторыю на абочыне на праталінах пасвяцца каровы. Пры дарозе — некалькі буданоў-развалюх, у тым ліку нейкая крамка і зачынены пункт продажу страхавых полісаў (мы былі тут у чацвер, каля 10 гадзіны). Навокал ні аднаго туалета.

Гэтая апошняя карцінка з Польшчы зацерлася зусім пасля ўезду пры змярканні шырокай і недзіравай дарогай у звіваючыся ў аранжавым мроіве Мінск, затоплены ва ўздымаючыхся ўверх пабудовах, на якіх што і руш відняюць самыя розныя рэкламы банкавых паслуг. У першы дзень пабыўкі, перад поўначчу са знаёмым тэатразнаўцам, таксама спадарожнічаючым візіту дырэктарцы Карыткоўскай-Мазур, выбраліся мы на вячэру ў горад. Пустымі вуліцамі шчыльнага цэнтра, абмінаючы вывіваючых у гэтую пару канькабежцаў на катку пры замерзлым штучным возеры, трапілі мы ў стары горад. Мілая абслуга ў выпадкова абраным шыночку пасадзіла нас каля адзіных гасцей — групы кубінскіх студэнтаў, разаграваючыхся ў гэтую марозную ноч пры гучных лацінскіх рытмах. На злосць, як так трапіць першы раз у Мінск і не магчы пры вячэры пагаманіць з беларусамі! Я пасмакаваў здаўна прымроеную салянку. Была яна аднак зарэдкая, не такая смакавітая, якую памятаю з рэстарана на чыгуначным вакзале ў Гродне ў канцы дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя з часу апошняй маёй паездкі ў Беларусь. Вярталіся мы паспаць каля першай ночы. На сталічных вуліцах пустэча. Са знаёмым удзельнікам дэлегацыі абміналі мы толькі рабочых, якія расчышчалі горад ад снегу. Відовішча як і ў Польшчы: адзін з лапатай адгортвае снег, трох курыць і дыскутуе. Нас штохвіліну абміналі міліцыйныя легкавушкі. Што ж, горад сонца спаў. Хтосьці не спаў, каб спаць мог хто іншы, калі б тут прывесці словы айца сусветнага тэатра Уільяма Шэкспіра.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Уік-энд у стылі дыска

Юрка БУЙНЮК




Фота Міры ЛУКШЫ

Вярнуўшыся з цяжкай фізічнай працы, чалавек не думае пра вялікія ўзнёслыя ідэі. Яму проста хочацца адпачыць ды расслабіцца. Сёння, у суботу, ды за цэлы тыдзень зашмат я нацягаўся цэглаў ды мяшкоў з цэментам. Калі халоднае, асенне-зімовае, шэрае, вячэрняе надвор'е не настройвае на шпацыр па парку, ёсць ахвота з'есці абед, уключыць тэлевізар, выпіць піва пры ўключаным тэлевізары. Адзін глыток (łyk) за суботні вечар — канец (end) тыдня. Уключаю тэлевізар, каб паправіць сабе настрой. Заўжды, калі прыходзяць выхадныя або свята, у тэлевізары няма чаго глядзець. На большасці польскіх тэлеканалаў паўторы штодзённых серыялаў. Не хочацца таксама глядзець паўторы тых самых амерыканскіх фільмаў дваццацігадовай даўнасці ці пустых бабскіх кінастужак. Абрыдла мне таксама глядзець як змагаюцца між сабою лідары палітычных партый. Гэта нармальнае, што маем крызіс — інакш я, магістр, не працаваў бы на будове. Самыя новыя фільмы ў кіно ды музыка на польскім радыё агрэсіўныя і чужыя — бо не славянскія. Не цікавяць мяне таксама кулінарныя праграмы. Яны сабе вараць, ядзяць, а што мы з таго маем? Голад за нечым новым у старым стылі. Усё роблена на амерыканскі капыл ды на чужой, англійскай мове і ў такі спосаб пададзена, каб чалавеку надаела слухаць ды глядзець. Век сучаснай замежнай, глабальнай, вобразнай поп-культуры становіцца адной і той самай англамоўнай сумессю, прытым занудлівай. Аднак чалавек інстынктыўна ўключае тэлевізар — „вобраз звера", як мая пакойная бабуля казала. Шукаю нечага новага, славянскага, каб адпачыць, пасмяяцца ды расслабіцца. Перакідваю каналы тэлебачання ды затрымліваю зрок. „Яна танцуе для мяне". Саракамільённы перагляд кліпа — YouTube не памыліўся —

## гэта безумоўна хіт карнавалу

ды новага 2013 года. Лык і энд. Скончылася першае піва. Гляджу як чорная кошачка танцуе на экране для белага ката, які спявае „Я добжэ то вем, она ту ест і таньчы для мне!". Наступны гурт. „Да-ро-та!" — крычыць хлопец ды худзенькая з доўгімі зграбнымі, загарэлымі ножкамі Дарота бярэ ў рот саксафон ды трубіць з фанаграмы (плейбека). Добра я памятаю гэты гурт „MIG", чатырох белых галубоў, што стаялі на даху гатэля „Галэмбеўскі". Смешыць мяне гэтая з'ява новага дыска-пола. Купляюць хлопчыкі дарагія фірменныя гітары, бубны, бас і прыкідваюцца, што сапраўды яны іграюць ужывую на сцэне, а так папраўдзе не ведаюць ніводнага гітарнага акорда, а ў сапраўднай аранжыроўцы ніводнага гука сапраўдны гітары ці бубна. — „Oj tam, oj tam" групы „Power Play" падабаецца сучасным маладым фанатам дыска-пола. „Што там, што там свіння з дротам" — так пародыю гэтай польскай песні спявае, паводле мяне, самае слаўнае падляшскае кабарэ „Radio Chlew" з Дубровы-Беластоцкай. Яшчэ ў 1990-х гадах трох хлопцаў з Сакольшчыны заснавала кабарэ „Радыё Хлеў", якога 7-мільённай аўдыторыі пазайздросціла б нават нашае Радыё Рацыя. З усяго дыска-пола найбольш люблю песні майго земляка Зэнка Мартынюка. Ён — белы цыган дыска-пола або польскі Майкл Джэксан — так пішуць яго фанаты на Ютубе пад відэакліпамі групы „Akcent". На самай справе Зэнэк Мартынюк нарадзіўся ў Градалях, 5 кіламетраў ад маёй вёскі Маліннікі. Ад восьмага года жыцця іграе цудоўна на гітары, а ў 1989 годзе заснаваў групу „Акцэнт". Добра памятаю як у дзяцінстве вазіў я з бацькам малако на пункт скупкі ў Градалях. Там працавала маці Зэнка Мартынюка.

— Ну, як там Ваш сын іграе? — пытаю маці Зэнка.

## — Зараз іграе ў Амерыцы,

— на падляшскім дыялекце кажа Тэрэса Мартынюк — мама славутага на ўсю Польшчу Зэнка. Фанаты гурту „Акцэнт" паважаюць гэтую групу за тое, што Зэнэк — адзіны з выканаўцаў дыска-пола, які ўмее чыста спяваць ды добра іграе на гітары. Да песень групы „Акцэнт" тэксты пішуць прафесійныя польскія паэтэсы — Эва Алімоўская ды Мажэна Зрайкоўская. Памятаю як год назад я быў на яго канцэрце і як гарачыя 40-гадовыя фанаткі стараліся дабрацца да сцэны. Дарэчы, маладых было больш, але ў старэйшых фанатак групы „Акцэнт" тэмперамент быў больш дынамічны. А яна танцуе зноў. Саракадвухгадовы Януш Канопля з групы „Mirage" туліцца да 18-гадовых дзяўчатак, якія можна смела назваць яго дочкамі. Дарэчы, я ў новых відэакліпах дыска-пола заўважыў адно: Чым старэйшы выканаўца, тым маладзейшых дзяўчатак бярэ сабе да відэакліпаў. „Без прыгожай, зграбнай дзяўчыны, дарагога лімузіна ды шыкоўнага гатэля няма відэакліпа" — піша мне на Фэйсбуку Януш Канопля.

## „Татка ды малалетка"

— падсумоўвае кліп „Міраж" Мартына — мой сябар. Цікава, што на тое жонкі такіх музыкантаў, якія прытуляюць да сябе маладзенькіх, скупа адзетых дзяўчатак, якія сваёй вопраткай напамінаюць галоўную гераіню рамана Набокава „Лаліта". Відаць, музыканты дыска-пола маладымі фотамадэлямі лечаць закамплексаванасць сталага ўзросту. Насамрэч, шмат у гэтым нерэальных вобразаў сучаснай Польшчы — пазычаны элегантны лімузін з гатэля „Крыстал" у Беластоку, наняты на час здымкаў гатэль ды фотамадэль, якая за тысячу злотых не схоча здымацца ў 3-4-хвілінным кліпе. Калі большасць жыхароў не мае добра аплатнай працы, то яны разбіваюцца ў лімузінах. Усё гэта, каб паказацца ды пахваліцца, што ён не горшы ад іншых музыкантаў. Мінулі гады, калі да здымкаў для кліпа бралі сваю жонку або сяброўку са свайго пад'езда. Памятаю, як на пачатку 1990-х гадоў „Міраж" пачынаў іграць. Дарэчы, калі я вучыўся ў белліцэі, на школьным калідоры часта мінаўся з братам Януша Каноплі — Андрэем, які ў 1998 годзе здаваў атэстат сталасці. Зараз яны слаўныя артысты. Тут ідзе таксама пра аўтарскія правы — большасць песень польскіх гуртоў дыска-пола гэта савецкія песні рускіх груп „Ласковый май", „Мираж", „Фристайл", перакладзеных на польскую мову ды запісаных у Зводзе аўтарскіх правоў ZAiKS як аўтарскія песні польскіх гуртоў дыска-пола. Нашыя гурты „Прымакі" ці „Ас" таксама адважыліся на такія хітрыкі. Для іх рускія песні перакладае на беларускую мову Віктар Швед. І так ад 2010 года музыка дыска-пола мае свой тэлеканал — Polo TV, які ад 1 траўня 2012 года цераз дэкодэры DVB-T можна глядзець ва ўсёй Польшчы. Там можна глядзець не толькі самыя новыя відэакліпы дыска-пола, але і старыя відэакліпы з 1990-х гадоў. Нібыта дыска-пола мае зараз свой час, але 1990-я не вярнуліся. На вёсцы ў пятніцу ды суботу цішыня. Ніхто не ўключае гучнай музыкі. Вясковая святліца стаіць пустая, таму што моладзь выехала за працай за мяжу або ў Варшаву. Фабрыка „Ікэя" не аказалася збаўленнем, бо не прыняла на працу зашмат маладых людзей з навакольных вёсак, а аб прыезджых няма ніякай мовы. „Ікэя" дапамагла толькі войту Сэльвесюку здабыць мандат на другі тэрмін. На вёсцы цішыня. У суботы не прыязджае паліцыя, каб разганяць хуліганаў з вясковай забавы, ніхто не вырывае штахетаў у плоце. Цішыня, бо ўсе старажылы сядзяць перад тэлевізарамі, а моладзь у інтэрнэце, а ў горшым выпадку — п'юць піва пад вясковаю крамай.

## А яна надалей танцуе для мяне...

... чорная, салодзенькая, маладзенькая кошачка перад 40-мільённым натоўпам інтэрнаўтаў. Танцуе сваімі зграбнымі доўгімі, у спакуслівых калготках ножкамі, з доўгімі чорнымі валасамі ды з тварам і вачамі падобнымі на вядомую польскую тэнісістку Агнешку Радванскую. Чорныя яе вочкі зіхацяць агнём радасці ды маладосці. А на канапе сядзіць ён — новы кароль дыска-пола Радэк — Лык Энд — у касцюме такога колеру, які я летась купіў пад вяселле дваюраднай сястры. „Ja dobrze to wiem, ona tu jest i tańczy dla mnie" — ходзіць па галаве простая, але западаючая ў памяць песенька. А гурт „Weekend" усюды дае інтэрв'ю. Куплю навейшы нумар тыднёвіка „Angora" — які, дарэчы, надрукаваў два мае навейшыя вершы — а там інтэрв'ю з вакалістам групы „Уік-энд". І так, уключаю праграму „Uwaga" на TVN, на TVP 3 — „Minęła 20-ta", тэлеканалы TVP1, Polsat, Polo TV, Tele 5, а там усюды дыска-пола! Толькі ў Беластоку цішыня. Маладыя беластачане слухаюць хіп-хоп ці Radio Eska. Дарэчы, улады горада хочуць адхаміць, зрабіць больш культурным Беласток ды ачысціць ад правінцыянальнай з'явы, якім з'яўляецца музыка дыска-пола. Нейкі сацыёлаг з Вроцлава калісьці сказаў, што ўлады Беластока не павінны саромецца дыска-пола, бо гурты дыска-пола гэта сусветныя зоркі, якія іграюць канцэрты не толькі ў Польшчы, але ў ЗША ці ў Заходняй Еўропе. А дыска-пола, на злосць крытыкам ды зайздроснікам, апаноўвае ўсе масмедыі. То СМІ, якія да гэтай пары замоўчвалі гэтую музыку, зараз адкрываюцца на дыска-пола. Тэлеканал Polsat у 2012 годзе пачаў вяшчаць праграму з кліпамі дыска-пола. Вядома, што гэтая музыка мае фальклорныя традыцыі. Год назад я са сваёю нарачонаю былі ў Элку на вяселлі, ды там вяселле не абышлося б без дыска-пола.

*„Глядзі, — штурхае мяне локцем сябар на вяселлі. — Усе саромеюцца дыска-пола, а танцуюць ды спяваюць, бо ведаюць на памяць усе шлягеры дыска-пола!" Ды не толькі ў Элку, але пад Бельскам ці пад Гайнаўкай або ў Беластоку, дзе я не пабываў на вяселлях, усюды царыць дыска-пола ды беларускія народныя песні. Дарэчы, шмат лідараў гуртоў дыска-пола*

## гэта нашыя хлопцы

Яшчэ ў 1990-х гадах у інтэрв'ю для праграмы „Disco Polo Live" Зэнэк Мартынюк прызнаўся, што ён беларус ды калядаваў з гвяздою. Пару гадоў назад у той самай праграме лідар гурту „Boys" Марцін Мілер прызнаўся, што ён праваслаўны, а маці яго ўкраінка, якая з акцыі „Вісла" трапіла на Мазуры ў вёску Просткі, дзе нарадзіўся сам Мілер. Каб мы пачалі вылічаць, то па-за Зэнкам Мартынюком, Марцінам Мілерам ці згаданымі Янушам ды Андрэем Каноплямі, ёсць яшчэ больш нашых хлопцаў. Напрыклад, Януш Усціновіч з гурту „Casanova", Міраслаў Кшыштопа ды Ірэнэуш Каролька z „Imperium", Марцін Сягеньчук z „Toples", Марэк Шурпік z „Time", Юрка Шуй з „Jorrgus" ці Міраслаў Лешчук з „Domino" і г.д. Нашыя хлопцы заснавалі на рынку польскай музыкі, бо ў нашым беларускім асяроддзі не мелі б шанцаў на такую вялікую агульнапольскую папулярнасць, а прытым вялікія грошы. Дарэчы і нашыя беларускія гурты „Ас", „Прымакі" ці „Сакрэт" таксама пачыналі кар'еру на польскім рынку дыска-пола. Гурты дыска-пола за ганарары, асабліва з канцэртаў, пабудавалі сабе не толькі дамы, але свае студыі гуказапісу ды студыі запісу відэакліпаў. Каб зняць кліп у відэастудыі „Yoko Film" Януша Канопля, трэба выкласці прынамсі 2 тысячы злотых. Апошнім часам ён не толькі здымае кліпы для польскіх зорак дыска-пола, але і запісвае кліпы на беларускія песні. Кліп „Родны мой горад" Канопля запісаў у сваім родным горадзе Бельску-Падляшскім. Януш Канопля зрэалізаваў таксама відэакліп на народную беларускую песню „Палюбіла півака" гурту „Time". Канопля зрэалізаваў кліп у сцэнерыі беларускай вёскі Дэнісікі каля Бельска-Падляшскага. Тыя ды іншыя прафесійныя відэакліпы на беларускія песні можна таксама пабачыць на тэлеканале Polo TV. Беларускія кліпы нашых хлопцаў, якія перш за ўсё сталі папулярнымі ў Польшчы, гэта доказ таму, што яны не забываюць сваіх каранёў ды адзываюцца ў іх творчых імкненнях нешта нашае да сваё.

## Не дазваляйма звесціся ашуканцам...

Ад шасці гадоў карыстаўся я паслугамі лічбавага тэлеканала Польсат. Скрупулёзна выконваў правілы абаненцкай дамовы і статута. Тэрмінова рэалізаваў з банкавага рахунку належныя аплаты. Не можна сказаць такога аб другім баку. Мой пастаўшчык паслуг аказаўся хітруном: не прад'яўляў рахункаў, дапамінаўся платы праз пасярэдніцтва праяўленых на экране тэлевізара аб'яў. Здарылася так, што я заплаціў рахунак, а лічбавы Польсат дапамінаўся быццам пратэрмінаванай платы. Не памаглі мае рэкламацыі і скаргі, пасланыя дырэктару. Пісьмы заставаліся без адказу. Калі я адмовіўся заплаціць „пратэрмінаваную плату", мне заблакіравалі доступ да тэлепраграм. Такім чынам заставілі заплаціць другі раз абанемент з падбаўленай стаўкай. Было гэта ў пачатках заключэння дамовы, г.зн. у 2006 годзе. Падобная гісторыя здарылася ў 2009 годзе. І зноў лічбавы Польсат абдурыў мяне на абанеменце. Трэці раз дайшло да спрэчкі ў 2011 годзе. Гэтым разам я патрабаваў звярнуць надбаўку, якая вынікла з пераплаты. А калі мне не звярнулі грошай у назначаны тэрмін, я адказаўся плаціць рахунак за чарговы месяц. Паслаў я тры скаргі самому кіраўніку лічбавага тэлеканала Польсат. Быццам гарохам аб сценку! Пісьмы засталіся без адказу. Не стаў я больш цярпець насмешкі чыноўнікаў. У кастрычніку 2011 года падаўся ў Варшаву ў бюро абслугі кліента і падаў заяву на пагашэнне дамовы. Лічбавы Польсат абвінаваціў мяне ў датэрміновым скасаванні дамовы і абцяжарыў штрафам велічынёю ў 52,63 зл. У ход справы я ўключыў Павятовага заступніка спажыўцоў. У доказ здзейсненых пастаўшчыком паслуг парушэнняў дамовы і статута прад'явіў я неабходныя дакументы. Я ўпэнены ў тым, што праўда на маім баку. Дзеля таго хачу паставіць кропку над „і" — публічна абвінавачваю лічбавы Польсат у вымантачванні неналежных грошай і махлярстве з дакументамі. На мае закіды, прад'яўленыя Павятоваму заступніку спажыўцоў, лічбавы Польсат не дае станоўчага адказу. Пагаджаецца аднак пагасіць мой штраф дзеля таго, каб закончыць непрыемны канфлікт. На такія здзелкі я не пагаджаюся. Справу кірую ў трацейскі суд Управы аховы канкурэнцыі і спажыўцоў. Там разбяруцца.

**Уладзімір СІДАРУК**

**СПАЧУВАННІ**

31 студзеня 2013 г. на 79 годзе жыцця памерла

**Лідзія Гайдук**

— шматгадовая настаўніца беларускай і рускай моў у сярэдніх школах Бельска-Падляшскага і Беластока, сааўтарка падручнікаў па беларускай мове і літаратуры.

Сям'і Нябожчыцы словы шчырага спачування з прычыны напаткаўшага Іх гора

— выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы".



# Радасная дапамога госпісу

Тэкст і фота Агаты АРЛЯНСКАЙ

**Хатні госпіс Фонду «Падляшскі анкалагічны госпіс» у Новай Волі Міхалоўскай гміны надалей дзейнічае на грамадскіх пачатках. Грамадскі збор грошай праводзіцца ў скарбонкі ў крамах «ВІМ», «Левіятан», «Крафт» (Л. Баршчэўскі), «СІС» (Савіцкі і Сымка) і ў «Бядронцы».**

**Госпіс прарока Іллі быў пасвячаны 10 кастрычніка 2012 г., а 25 студзеня 2013 г. у «Гасподзе Міхалова» ў Міхалове адбыўся дабрачынны баль. Увесь прыбытак ад балю падтрымае дзейнасць хатняга госпісу. Свой уклад (нават найменшы) дзеля падтрымкі фонду і госпісу можна пералічваць на рахунак 52 8060 0004 0551 0139 2000 0010, Fundacja Podlaskie Hospicjum Onkologiczne, Bank Spółdzielczy w Białymstoku Oddział w Michałowie.**

— Без вашай дапамогі шанцы на тое, каб мы перажылі, драматычна малеюць. Калі мы мелі 4-6 падапечных (хворых пры канцы жыцця ў сваіх дамах), неяк давалі мы сабе рады. Ды цяпер, калі гэтых асоб маем амаль два дзесяткі, а чарговыя чакаюць, каб іх прынялі, нялёгка нам без пастаяннага фінансавання. Апека над адным хворым каштуе каля тысячы злотых штомесячна. Патрэбная ўсялякая дапамога, таму што мусім утрымацца як грамадскі госпіс, — кажа доктар Павел Грабоўскі, старшыня госпісу ў Новай Волі Міхалоўскай гміны, пераможца прэстыжнага агульнапольскага конкурсу «Грамадскі дзеяч года» (сарганізаванага тыднёвікам «Newsweek Polska») і намінант да «Залатых ключоў» («Кур'ера паранняга» ў Беластоку). — Апекай госпіс ахапляе Міхалоўскую, Гарадоцкую, Нарваўскую, Нараўчанскую і Заблудаўскую гміны. Без падтрымкі НФЗ да 2014 года мусім даваць сабе рады самі, таму арганізуем, збіраем ахвяраванні.... Са мною мае сябры з Рады ды валанцёры, некаторыя яшчэ вельмі маладыя, грамадскія дзеячы. Грамадскі дзеяч гэта для мяне хтосьці больш чым асоба, якая дзейнічае для іншых. Гэта таксама асоба, якая дзейнічае з іншымі, асоба, якая ўключае іншых да гэтых дзеянняў, запальвае іх да дзеяння, матывіруе, творыць групу, нейкую грамадскасць, якая будзе разам дзейнічаць... Наш госпіс дзейнічае з праваслаўным прыходам Нараджэння Іаана Хрысціцеля ў Новай Волі, а намеснікам старшыні фонду з'яўляецца яго настаяцель а. Яраслаў Шчэрбач. Узніклі мы з канцом 2009 года. Управу і раду фонду састаўляюць Павел Грабоўскі, Яраслаў Шчэрбач, Малгажата Паўлючук, Марцін Вісьнеўскі, Моніка Цыдзік, Анатоль Панасюк.

— Нашай задумай было заснаванне хатняга госпісу, — дадае Павел Грабоўскі, — што запэўнім апеку ў іх дамах, дзе да хворага будзе даязджаць лекар, медсястра, дзе будзе фізіятэрапеўт у выпадку патрэбы, псіхолаг, апека духоўнай асобы. Пакута, бо гэта не толькі сам боль, і сам лекар з таблеткамі не ў змозе тут памагчы. І мы ва ўправе рашылі, што не будзем чакаць, ці нас хтосьці будзе дафінансоўваць, ці не. Маем у сабе настолькі сілы і ўпартасці, што рушым без кантракту. І з хатнім госпісам рушылі ад 1 чэрвеня мінулага года. Чаму НФЗ адкінуў прапанову нававольскага госпісу? У конкурсе 2011 года падалі мы прапановы ў НФЗ у двух абсягах: хатняга госпісу і амбулаторыі паліятыўнай медыцыны. Абедзве прапановы былі адкінуты, паколькі не выконвалі мінімальных патрабаванняў наконт прылад і абсталявання. Конкурс выйгралі былі іншыя асяродкі з сядзібамі ў Беластоку, а іхнія прапановы вычарпалі ўсю суму прызначаную на такую апеку. Падпісаныя дамовы абавязваюць да 2014 года.

— Магчымасці і сілы маем на больш, на жаль, не хапіла гэтага, каб Нацыянальны фонд здароўя падпісаў дамову з нашым госпісам. Два разы ў тыдзень хворых наведваюць нашы медсёстры, а два разы ў месяц — лекары, — кажа каардынатарка дзейнасці госпісу Магда Юрчук, якая з тэмпераментам вяла ўвесь харытатыўны баль. — У 2011 годзе восенню рушылі нашы майстар-класы. Увесь час думалі, што ўдасца сарганізаваць хатні госпіс, што ўдасца закантрактаваць паслугі хворым у Нацыянальным фондзе здароўя, ды не ўдалося... Займаемся хворымі, утрымліваючыся з дароў ад спонсараў. Мы — грамадская карысная арганізацыя і ад нашых прыхільнікаў паступае нам 1 працэнт ад іх падаткаў у год. Каб перадаць 1 працэнт ад свайго падатку на госпіс у Новай Волі, трэба ўпісаць: *KRS 0000328837 Hospicjum w Nowej Woli*. Спадзяемся не страціць гэта статусу на наступны год. Ахвотна вітаем акцыйных валанцёраў. Пасля будзем абучаць прафесійна тых, хто будзе хадзіць да хворых...

— Дабрачынны баль на госпіс у Новай Волі прынёс цудоўную забаву. А прытым удалося сабраць аж 18 тысяч злотых шчодрымі, разумеючымі задуму і мэту сустрэчы ўдзельнікамі з усяе Польшчы, — цешыцца Магда Юрчук. — Фанты на таргі дасылалі нават вядомыя асобы з усёй краіны. Спачатку пералічвалі мы фанты, сабралася калекцыя больш за дзвесце рэчаў з розных галін (пасля ўжо перасталі мы іх лічыць), пачынаючы ад кніжак, канчаючы на іконе і майцы футбаліста польскай зборнай каманды. Ужо ад 16 снежня валанцёры з міхалоўскіх школ збіралі ахвяраванні на вуліцах Міхалова, калядавалі і прадавалі ўласнаручна выкананыя ёлачныя шары. Дзякуючы сябрам Фонду было створанае здарэнне на Фейсбуку і ў рэальнасці, і шмат донараў адгукнулася на заклік. Фанты, якія не прадаліся на аўкцыёне, будуць прадавацца ў сецiве на «Алегра». Былі фільмы, музычныя дыскі з аўтографамі выканаўцаў, сукенкі з аўтарскіх калекцый, біжутэрыя, найвыдатныя вырабы рукадзелля, альбомы, кнігі з аўтографамі, ікэнды на прыродзе ва ўсёй Польшчы, білеты ў тэатр, оперу, курсы...

Ад «Нівы» на аўкцыён пайшлі майка з аддрукаванай беларускай вышыванкай паводле праекта Міраслава Здраўкоўскага, кнігі Міры Лукшы «Biały stok» і Ганны Кандрацюк «W stronę Tarasiewicza». На балі была і латарэя з жэрабем з кошычка. Найбольшую цану дасягнулі спартыўная майка Роберта Левандоўскага (прывезла яе са спартклуба «Барусія» маці ягонай нарачонай) ды ікона «Вераікон». На рукі старшыняў Фонду трапіў грашавы падарунак уласнікаў «Гасподы» спадарства Анатоля і Гражыны Цімошукаў (5000 злотых).

— Гэта і шмат, але і мала, — сказаў донар Анатоль Цімошук. — Ды скажу вам, грошы гэта не ўсё, важнейшае, што старшыня і бацюшка, і ўсе тыя, што спрычыніліся да таго, што фонд дзейнічае ў гэтым месцы, у нашай гміне, і як ён дзейнічае. Таму мы з жонкай рашылі перадаць гэтую сціплую суму, каб служыла вам і нам.

— Гэта не першая ваша дапамога, спадарства Анатоль і Гражына, для нашага фонду, — дзякаваў а. Яраслаў Шчэрбач. — На самым пачатку, калі мы сапраўды былі ў фінансавым крызісе, вы таксама нас падтрымалі. А мы можам пажадаць, каб Бог благаславіў вашым фірмам і вам, асобам, якіх сэрцы заўжды адкрытыя на дапамогу іншым людзям.

— Гэта наш першы баль у Міхалове, а другі нашага фонду, — удакладніў а. Яраслаў Шчэрбач. — Гэта дзякуючы такім асобам як вы наш фонд можа ў меру нармальна функцыянаваць.

Быў ілюзіяніст, было выступленне танцорак, гіп-гопістак «31+» (найстарэйшай было за 50 гадоў), былі спевакі дыска-пола, дзяўчаты з крынскай «Зараніцы» (вучылі таксама танцаваць кадрылю!) і багаты канцэрт гурту Марыюша Харужага, перш за ўсё беларускі, як усе, якія адбываюцца на мерапрыемствах, ладжаных госпісам прарока Іллі.

У поўнач узляцелі ў марозные міхалоўскае неба ліхтары. А назаўтра было яшчэ катанне на санках.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Вярхлескае калядаванне

Вёска Вярхлессе, што ў Шудзялаўскай гміне Сакольскага павета на адзін дзень стала цэнтрам калядных традыцый. Менавіта тут 27 студзеня 2013 года прайшоў XVIII Канцэрт суседскіх калядак, ладжаны Шудзялаўскім домам культуры. У вёску, якая скрылася ў лясной глушы Кнышынскай пушчы, з'ехаліся не толькі жыхары Шудзялаўскай гміны, але таксама ваяводскія чыны на чале з віцэ-маршалкам Падляшскага ваяводства Мечыславам Казімежам Башко. Мерапрыемства сваёй прысутнасцю ўдастоілі войт Шудзялаўскай гміны Марыюш Чабан, сакратар Гміннай управы Альжбета Гарбацэвіч, старшыня Гміннай рады Лешак Альховік, камендант шудзялаўскіх пагранічнікаў Міраслаў Падгаеўскі, павятовы радны Тадэвуш Такарэвіч, намеснік старшыні Краёвага саюза сялян ды сельскагаспадарчых гурткоў і арганізацый Міраслаў Суровец.



Вярхлесянкі са Свята-Юр'еўскай царквы



Вярхлесянкі з касцёла св. Яна Хрысціцеля

У прасторнай зале вясковай святліцы панавала асаблівая атмасфера добразычлівасці і радасці. Энергічныя мясцовыя жанчыны з самага парога з усмешкай і клопатам прымалі ўваходзячых гасцей. Амаль усе жыхары даволі вялікага Вярхлесся адгукнуліся на заклік дырэктаркі Шудзялаўскага дома культуры Альжбеты Ярашэвіч аб правядзенні ў вёсцы святочнага канцэрта. У святліцу неслі яны гаршкі поўныя, між іншым, свойскай каўбасы, кішкі ці бульбяна-мясных клёцкаў. Снежна-белы, напамінаючы надвор'е за акном, стол у святліцы паступова запаўняўся разнароднымі, толькі што вынятымі з печкі, пірагамі. Гаспадары не шкадавалі таксама хатняга хлеба і віна. Уражвала колькасць і якасць прынесеных страў. Стол, як і сам канцэрт, стварыў настрой сапраўднай супольнасці і сяброўства. Ён быў падрыхтаваны не толькі гмінным і ваяводскім кіраўнікам, ці нябедным прадпрымальнікам. За стол селі таксама шматлікія выканаўцы і ўсе, без выключэння, прысутныя. Жыхары вёскі ўпершыню ўдзельнічалі ў арганізацыі каляднага канцэрта. Атрымалася ім гэта асаблівa ўдала. Не адчувалася тут характэрнага для большасці Сакольшчыны падзелу на лепшых „польскіх” і горшых „рускіх”. Побач з сабой выступалі дзеткі і дарослыя, праваслаўныя і каталікі. Вёску Вярхлессе прэзентавалі аж два жаночыя хары: касцёла св. Яна Хрысціцеля і Маці Божай Анёльскай ды Свята-Юр'еўскай царквы. Жанчыны абодвух хароў вылучаліся вопраткай, утрыманай у аднолькавай стылістыцы, увенчанай традыцыйнымі, рознакаляровымі, квяцістымі хустамі. Не было між імі розніцы і ў колькасці пеўчых, а і выступаць прыйшлося ім якраз адзін за другім. Спачатку на сярэдзіну залы выйшлі каталіцкія жанчыны. Як самі потым прызналіся, гэта было іх першае пазакасцельнае і пазаадпявальнае публічнае выступленне. Вельмі яны хваляваліся. Няўпэўненасць заўважальна адступала з кожным чарговым куплетам. Жаночыя галасы з хвіліны на хвіліну набывалі сілу, гучанне і гармонію, дасягаючы піку магчымасці ў паўторах прыпеваў. Усе творы выконваліся ў даволі нізкай танальнасці і амаль адным голасам. Яны неадкладна з'ядналі сабе прызнанне і пашану слухачоў. Іхнія калядкі адзначаліся архаічнасцю не толькі па змесце тэкстаў, але і па народнай, сапраўды аўтэнтычнай, амаль не захаванай на Сакольшчыне тэхніцы спеву. Вярхлесянкі з поспехам маглі б канкураваць на фестывальных сцэнах з самымі лепшымі народнымі выканаўцамі рэгіёна і краіны. Хто ведае, можа іх мастацкая кар'ера толькі пачынаецца. Да гэтага выступу жанчыны рыхтаваліся самастойна. Іхняму арганісту Тадэвушу Усу вельмі хацелася зберагчы характэрны менавіта гэтай вёсцы клімат твораў, таму ў перадканцэртную падрыхтоўку рашыў ён не ўмешвацца. Дзякуючы яго разумнаму падыходу выступленне жанчын было надзвычай запамінальнае. Жанчыны, сыходзячы са сцэны, без сарамлівасці, па-беларуску прамовілі да сваіх праваслаўных сяброваk: „Мы ўжэ нагрэлі вам месца, трымайцеся, ўсё будзя добра”. Здавалася б, такі невялікі жэст, а колькі ў ім глыбокай, жыццёвай мудрасці і гонару.

Па-беларуску заспявала таксама школьніца Наталька Горчак, якую да выступлення рыхтавала настаўніца беларускай мовы ў Шудзялаве матушка Людміла Клімук. Матушка дапамагла ў падборцы старых востраўскіх калядак і крынскаму дуэту „Зараніца”. Выступленне крынчанак было ўзнагароджана гучнымі апладысментамі і адкрыццём сэрцаў вярхлесян на іх творчасць. Публіка захаплялася таксама выступам праваслаўных хароў з Самагруда і Вострава. Шудзялаўскі ксёндз Вацлаў Дудзюк прывёз з сабой жанчын, якія штодзень сваім спевам дапамагаюць яму весці касцельныя набажэнствы. Цікавыя вакальна-інструментальныя выступленні прэзентавалі вучні школ у Бабіках і Шудзялаве.

Усіх удзельнікаў канцэрта чакалі памятныя дыпломы і ўзнагароды, падрыхтаваныя Управай гміны ў Шудзялаве і Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства. Хто ведае, можа гэтая творчая сустрэча стане пачаткам новага супрацоўніцтва з мэтай захавання супольнай, культурнай спадчыны рэгіёна.





Публіка на чале з кіраўнікамі гміны і ваяводства

## Гвязда і калядка — у Нараўцы

18 студзеня г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбыўся VI Гмінны агляд калядоўшчыкаў „Гвязда і калядка”. Удзельнічалі ў ім хары, калектывы ды дуэты і трыо з чатырох гмін, у тым ліку суседніх Белавежскай, Гайнаўскай і Міхалоўскай. Агулам было 20 г.зв. выканаўчых адзінак. Можна было паслухаць калядак па-беларуску, на польскай і ўкраінскай мовах. Сярод наймалодшых каляднікаў першае месца заняў калектыў 5-гадовых дзетак з Комплексу школ у Нараўцы.

У катэгорыі школьнікаў першае раўнапраўнае месца занялі вучні IV і V класаў.

У катэгорыі дуэтаў і трыо першае месца заняло сямейнае трыо Васільчыкаў — Наталля, Якуб і Ян з Нараўкі.

У катэгорыі хароў першае раўнапраўнае месца занялі Хор белавежскіх леснікоў і Хор Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага прыхода ў Нараўцы.

У катэгорыі калектываў з дарослых удзельнікаў першае месца занялі



„Жаваранкі” з Махнатага (на здымку), а другое раўнапраўнае месца — „Цаглінкі” са Старога Ляўкова і „Нараўчанкі” з Нараўкі.

Выканаўцы калядак атрымалі дыпломы і грашовыя ўзнагароды. Хор белавежскіх леснікоў і Хор Свята-Мікалаеўскага прыхода ў Нараўцы свае грашовыя ўзнагароды перадалі на патрэбы дзяцей і вучняў Комплексу школ у Нараўцы. Прыняла іх і падзякавала дырэктар КШ Марыя Леўша.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Сяброўства без межаў

Вельмі прыемна было даведацца, што хтосьці яшчэ ведае аб нашым калектыве „Катрынка” і аб грамадскім аб'яднанні „Спадчына”. 17 студзеня 2013 года да нас завіталі прадстаўнікі калектыву „Цаглінкі” са Старога Ляўкова Нараўчанскай гміны ў Рэспубліцы Польшча. Радасна было пазнаёміцца з Віктарам Бурам, Мікалаем Мяжэнным, Пятром Кудэрскім.

Яны расказалі аб сваім калектыве „Цаглінкі” і запрасілі нас да сябе ў госці. Разам мы запланавалі сумесныя канцэрты, удзел у фэстах. Калі наш калектыў аб'ядноўвае прыхільнікаў фальклору ад 6 гадоў да 60, то ў „Цаглінках” самаму старэйшаму ўдзельніку 102 гады! Так трымаць!

Спадзёмся на сустрэчу з войтам гміны Нараўка Мікалаем Павільчам, каб выказаць яму словы ўдзячнасці за запрашэнне ў гміну. Сапраўдныя гаспадары кіраўнікі гміны і калектыву „Цаглінкі”! Яны, як у прымаўцы, рыхтуюць сані летам, а зімой калёсы. Вялікі дзякуй усім, хто з вамі!

Мы маем свой сайт: spadchina.do.am

Да сустрэч!

**Старшыня Камянецкага раённага грамадскага культурна-адукацыйнага аб'яднання „Спадчына” Людміла Дудар**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


Orth-power, Mali tutejsi


Corda Vox з Тэрэспалі

# Трэці раз на фестывалі ў Тарэспалі

— А вы заўсёды ў нас будзеце першымі госцейкамі, — такія словы прызнання пачулі вучні праваслаўнай школы ў Беластоку ад арганізатараў 18 Фестываю каляднай песні ў Тарэспалі. Нашыя сябры атрымалі запрашэнне на наступны год. Гэты жэст прамаўляў як найбольшае прызнанне і ўзнагарода. Не дзіва, нашыя дзеткі сагрэлі і парадавалі публіку сваім шчырым, прыгожым выкананнем...

2 лютага г.г., разам з вучнямі, настаўнікамі і бацькамі з Непублічнай школы святых Кірылы і Мяфодзія, наша рэдакцыя падалася ў Тарэспаль. Падарожжа напамінала доўгі, вясёлы ўрок беларускай мовы, музыкі і краязнаўства. Сама настаўніца Іаанна Марко падрыхтавала дзесяткі беларускіх вершаў, каб у час падарожжа прапанаваць іх на дэкламатарскі конкурс. Тут жа завялі гутарку пра прадметны конкурс:

— А ці можаце праверыць мае веды? — папрасіла ў настаўніцы Клаўдзія Галінская. Чацвёртакласніца стала ўжо фіналісткай прадметнага конкурсу і на хаду пачала складаць назоўнікі, утвараваць ступені параўнання прыметнікаў, называць лічэбнікі...

Дзесьці каля Сямятыч мы пачулі расказ першакласніка Іванкі Волчэка. Хлапчук на крок не адступаў ад сваёй класнай сяброўкі Юстыны, каб гаварыць з ёю пра Беларусь. Бацькі Івана і Юстыны родам з Мінска.

— А раскажы нам Іванку як ты ў Мінску „Ніву" хацеў купіць, — заахвочвае свайго першакласніка настаўніца.

— Ну, раскажу! — хлапчук глянуў яшчэ на бабулю, каб яна адобрыла яго „выступленне".

Калі Іванка паехаў у Мінск, ён засумаваў па школе і Беластоку. У сталіцы Беларусі яму захацелася пагартаць нашу газету. Ён хадзіў ад крамы да крамы і пытаў пра „Ніву".


Іванка і Юстынка

— І што атрымалася?

— Нідзе яе не было, — кажа здзіўленны першакласнік.

Праўда, у адным магазіне падказалі яму, каб прыйшоў праз тры дні, бо тады будзе „Ніва". Пасля хлапец даведаўся, што ў Мінску выходзіць газета з падобным загалоўкам — „Наша Ніва". Ну, але ж яна не такая, у яе няма „Зоркі"!

* * *

На фестываль у Тарэспаль паехалі далёка не ўсе ўдзельнікі музычнага гуртка „Orth-power, Mali tutejsi". Але, як кажуць, не колькасць, а якасць рашае пра поспех. Разам з вучнямі выступаў Генадзь Шмет, любімы настаўнік музыкі, які іграў на гармоніку. Нашыя сябры заспявалі пяць калядак і, можна сказаць, пашырылі формулу фестываю. Звычайна калядоўшчыкі выступаюць тут з украінскімі, рускімі і беларускімі калядкамі. Дзеці з Беластока спявалі па-беларуску, па-ўкраінску, па-руску і на... сербскай мове.

Праваслаўныя калядкі, дзякуючы фестываю, сталі вывучаць многія паляки. Перад тым як выступіў Беласток, на сцэне запрэзентаваўся этна-гурт „Шуміха" з Варшавы, які спяваў народныя ўкраінскія калядкі белым спевам. Вельмі спадабаўся дзіцяча-маладзёвы хор з Тарэспаля „Corda Vox", які спяваў польскія, украінскія і палескія калядкі.

Далёкая дарога (у адзін бок мы ехалі тры гадзіны) заставіла вяртацца пасля выступлення. На развітанне з горадам наша група паехала ў мясцовую царкву, каб пакланіцца іконе Божай Маці Хутка спаўняючай просьбы (Скорапаслушніцы). У зваротнай дарозе спантанна пачалі рыхтавацца да Агляду беларускай дзіцячай песні. Натхненне падарыла першакласніца Юстына Бакуменка. Яна, пад захапленне сяброў і дарослых, спявала амаль усю дарогу. Калі канчала адну песню, яе адразу прасілі:

— А якая наступная будзе?!

А трэба дадаць, што ў праваслаўнай школе музычная культура на самым высокім узроўні. Многія вучні гэтай школы выступаюць у музычным спектаклі „Корчак", які цягам апошняга паўгоддзя ідзе ў Падляшскай оперы.

**ЗОРКА,**
**фота Ганны КАНДРАЦЮК**

## Вершы Віктара Шведа

### Цёця прыехала ў госці

Цёця прыехала ў госці,
Затужылася, не інакай.
— Адкрый свой рот, прасіць Косця,
— А што там хочаш убачыць?

— Я на хвіліну загляну,
— Ці сапраўды гэтак дрэнна?
— Заўсёды сцвярджае мама —
Язык маеш доўгі страшэнна.

### Кот і крук

Непаседлівы кот
Ўлез на слуп незнарок.
А на слупе быў дрот,
А ў дроце тым ток.

Чорны як вугаль крук
Меў кус сыра, як рыс,
Сеў у садзе на сук,
Паляцеў сыр уніз.



# „Ой даўно, даўно” ў Беластоку

**— Здаецца, гэта ўжо дваццаць восьмы раз? — у галаве ліцэісткі Ніны Ваўранюк на момант ажываюць усе ранейшыя спектаклі. Кожнае выступленне для яе было *найважнейшае*. Ці гэта калі выступалі ў вясковым клубе ў Тымянцы, ці ў Нью-Йорку, заўсёды было вялікае хваляванне, выклік... І зараз, у родным Беластоку, не было лёгка, нават цяжэй як дзе інакш...**





„Падляшскія хронікі” зноў ажылі ў поўнай красе. Пасля трохмесячнага перапынку спектакль паставілі ў Праваслаўным цэнтры ў Беластоку. Прадстаўленне пачалося ў абед, якраз пасля багаслужбы ў саборы, 3 лютага г.г. На сустрэчу з моладдзю прыйшло шмат людзей, якія, як аказалася пасля спектакля, не шкадавалі свайго рашэння.

— Тут такія эмоцыі, што не расказаць, — кажа беластачанка Анна. — Я яшчэ доўга буду думаць пра тое, што пачула.

Маёй субяседніцы падабаліся гаворкі з розных куткоў Беласточчыны:

— Гэта блізкае і знаёмае адчуванне. Штосьці такое можна пабачыць толькі ля беластоцкіх цэркваў. Нашыя людзі, калі выходзяць з багаслужбы, часта між сабой размаўляюць на мове сваіх вёсак. Тут чуецца і „чаромха” і „гарадок”.

Мне самой, якая глядзела спектакль шмат разоў, падабалася жывая эмацыйнасць на сцэне і сярод публікі. І тое, што ўсе акцёры сталі ўжо прыгожымі маладымі людзьмі, пра якіх пані Анна сказала, што *аж міло на такіх падзівіцца.*

У гэты раз спектакль ігралі ў акроеным саставе, якраз не прысутнічала каларытная Кася Більксвіч.

— Аказалася, што мы ўмеем не толькі свае ролі, але і ролі сваіх сяброў, — дадае ліцэістка Нінка, — таму не было праблем, каб данесці публіцы яе расказы, бо ж усё тут важнае.

**(гак)**

**Фота Ганны КАНДРАЦЮК**

# Музыка з кайфам

## Нанізаць папулярнасць: „Nizkiz”




http://vk.com/club6352437

Што абазначае слова „Nizkiz” пакуль не ведаю, але можа хто-небудзь з вас мае ідэю?

Гурт, пра які ў гэтым выпуску „Музыкі...” паспрабую распавесці, існуе ўжо пяць гадоў, але спасылак на іх сапраўды няшмат. Шырэйшая інфармацыя з'явілася толькі зараз, калі ўвазе слухачоў прэзентаваўся дэбютны альбом гурту. Загаловак першай сур'ёзнай прадукцыі такі ж, як і назва гурту, і, здаецца, ёсць у гэтым сэнс. Разам з альбомам трэба весці акцыю папулярызацыі самога гурту, які вядомы перш за ўсё жыхарам Магілёва. Як кожны больш беларускі горад, Магілёў хавае ў сваіх нетрах некалькі патэнцыяльных зорак радыёвяшчання і тэлебачання, але, каб зараз дабіцца свайго месца, трэба сёння шмат папрацаваць у галіне прапаганды не толькі праз фейсбук. „Nizkiz”, хаця працуе пяты год, відаць, на пачатку дарогі. Безумоўна, вядуць яго наведнікі магілёўскіх тусовак, канцэртаў ці аглядаў, бо шмат на якіх пабывалі. Зараз, аднак, апетытаў набралі на папулярнасць ва ўсёй Беларусі, каб не сказаць у Еўропе, бо гэтае слова часцей за ўсё паяўляецца пры артыкулах наконт новай працы гурту.

Мае гэта, зразумела, дачыненне да дэбютнага альбома „Nizkiz”, бо шмат працы пакладзена тут у якасць гуку і агульную музычную атмасферу альбома. Гэта зараз тэндэнцыя ў Беларусі і натуральны, на маю думку, накірунак развіцця, асабліва ў галіне музыкі, якую прэзентуе гурт „Nizkiz”. Меладычнага поп-рока сапраўды шмат у свеце, тады, калі хочаш стаць папулярным, трэба, каб ты быў канкурэнцыйны для іншых. Ды і трэба быць адметным. У выпадку „Nizkiz” напэўна ў карысць працуе моцны, характэрны вакал, а калі гурт пачне паступова тупіць партал „Тузін Гітоў”, то ёсць шанс, што адметнасцю стане таксама беларуская мова. Пакуль дэбютны матэрыял запісаны на рускай мове, але, зразумела, варта з ім пазнаёміцца і сачыць за ростам папулярнасці „Nizkiz”.

**i_basovka@o2.pl**

# Загадка (№ 6-13)

**Адказы дашліце ў „Зорку” да 20 лютага 2013 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

На палянах,
на дарожках
кругленькі клубок паўзе.
На кароткіх
тонкіх ножках
сто іголак
ён вязе.
(Кандрат Крапіва)

Адказ на загадку № 2-13: **Папяровы змей**. У надасланых лістах не было правільных адказаў. Пастарайцеся ў гэты раз, даражэнькія...

# Польска-беларуская крыжаванка № 6

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеенным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 2:

Мост, наш, жур, сонца, месяц, Нёман, як, ла, рад, збор. Тры, яр, сетка, нос, няня, жыццё, ну, ар, Ала, песняр.

Узнагароды, фламастэры, выйгралі **Аня Бяляўская, Лукаш Марчук** з Нараўкі, **Войцех Куптэль** з Арэшкава, **Адам** і **Анджэліка Сцепанюк** з Бельска. Віншуем!



Аляксей МАРОЗ

# Песні беларускай вёскі Гусакі



Капэла з Гусакоў. Злева: Эдмунд Кузміцкі, Аляксей Грыгарук і Аляксандр Федарук (архіўны здымак)



фота Аляксея МАРОЗА

Анна Фіёнік, кіраўнік «Жэмэрвы», з музычным альбомам «Чы я ў лузі не каліна. Песні беларускай вёскі Гусакі»

Пенсіянеры з Гусакоў на лавачцы

**Паміраюць у нашых вёсках старажылы — скарбніца песеннага фальклору. Яны і з памяці маглі заспяваць многа народных песень. Сцяпан Копа, спецыяліст па песенным фальклоры, сабраў, запісаў на магнітафонную плёнку, а пасля апрацаваў мноства нашых народных песень. Частка з іх выдадзена, але многа чакае яшчэ выдання, аб чым у размове са мной падкрэсліў Сцяпан Копа. Падобную работу, хаця пакуль у меншым маштабе, выконваюць Дарафей Фіёнік, яго сястра Анна Фіёнік і моладзь з калектыву «Жэмэрва», якія па вёсках Падляшша і Палесся запісваюць даўнія песні. Яны не толькі захоўваюцца ў фондах Музея малой айчыны ў Студзіводах, іх выдаюць на кампактдысках, уводзяць у рэпертуар гурту «Жэмэрва». Нядаўна Студзіводскі музей выдаў музычны альбом «Чы я ў лузі не каліна. Песні беларускай вёскі Гусакі», у якім апынуліся ў галоўным песні, запісаныя на магнітафонную плёнку сорак гадоў таму ад жанчын з распаложанага на этнічным польска-беларускім памежжы сяла.**

Чатыры песні, з дваццаці дзевяці змешчаных да дыску твораў, гучаць у выкананні калектыву «Жэмэрва», які развучыў частку рэпертуару гусакоўцаў. Мяркуецца, што частка выдадзеных песень перадавалася з пакалення ў пакаленне ажно з XVIII, а нават з XVII стагоддзяў і ў гэтым перш за ўсё праяўляецца незвычайнасць нававыдадзенага музычнага альбома.

— Валянціна Шэўчык (з дому Міхальчук — А. М.) спаткала мяне ў Супрасльскім манастыры і запрапанавала, каб мы нешта зрабілі з даўнімі песнямі, запісанымі ёю ў яе роднай вёсцы Гусакі. Былі яны часткай яе магістарскай працы аб фальклоры гэтага сяла, якую спадарыня Валянціна напісала будучы студэнткай беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта пад кірункам тады яшчэ доктара Аляксандра Баршчэўскага. Гэтыя песні мы рашыліся выдаць на кампакт-дыску, — пачала расказ Анна Фіёнік, кіраўнік «Жэмэрвы», ад якой пачалося супрацоўніцтва Студзіводскага музея з вёскай Гусакі, якое завяршылася выданнем музычнага альбома з песнямі гэтага сяла.

Магістарскую працу Валянціны Міхальчук (па мужу Шэўчык) «Народная творчасць вёскі Гусакі» Музей малой айчыны ў Студзіводах апублікаваў у выданні «Бельскі гостінэць» (№ 1 ад 2012 года). Гэтая абшырная работа, якая налічвае больш за 200 старонак машынапісу, дакладна і змястоўна апісвае фальклор і абраднасць Гусакоў. Змешчаны там таксама тэксты некаторых песень, запісаных аўтаркай працы.

— Жанчыны з Гусакоў праспявалі мне вельмі архаічныя песні і ў гэтым самая вялікая вартасць нававыдадзенага альбома. Слухаючы гэтыя творы можна заўважыць музычныя асаблівасці, якіх не пачуем у песнях, выконваных нашымі калектывамі, — заявіў Дарафей Фіёнік, старшыня музейнага аб'яднання са Студзіводаў. — А незвычайнасць самой вёскі Гусакі заключаецца ў тым, што яна распаложана непасрэдна побач сёл, дзе жывуць палякі каталіцкага веравызнання. Жыхары Гусакоў сумелі захаваць як праваслаўнае веравызнанне, так і беларускую нацыянальную свядомасць, чым ганарацца па сённяшні дзень.

— Мы, з Гусакоў, запісаліся ў час перапісу беларусамі. У нашай вёсцы жывуць толькі дзве сям'і польскай нацыянальнасці. Выстаялі мы ў праваслаўі, як беларусы, і захавалі наш багаты фальклор, — сказаў Рыгор Міхальчук, бацька Валянціны Шэўчык, які дапамагаў дачцэ збіраць гусакоўскі фальклор. — Мы запісалі ажно тры магнітафонныя шпулькі з песнямі з нашай вёскі, пад 60 твораў, з якіх Дарафей Фіёнік выбраў тыя, якія яго зацікавілі. Добра, што выдадзены яны на кружэлцы. Многа людзей будзе мець магчымасць пазнаёміцца з нашым фальклорам.

Музычны альбом з Гусакоў гэта трэцяя музычная манаграфія нашых беларускіх вёсак, выдадзеная Студзіводскім музеем. Раней выдалі яны два кампакт-дыскі з песнямі з Арэшкава і Збуча. На гэты раз выдалі песні запісаныя ў пачатку 1970-х гадоў у Гусаках.

— Доўгія месяцы спатрэбіліся, каб зразумець характар спеву гусакоўскіх людзей, народжаных у канцы XIX і ў пачатку XX стагоддзяў, бо іх спеў не зусім такі, як у людзей з міжваеннага перыяду. Гусакоўскія песні гэта традыцыйны і ўзорны падляшскі матэрыял. На яго падставе можна даследаваць аўтэнтычную мелодыку песень і мову. Тут ідэальна захаванае традыцыйнае вымаўленне, з нашымі падляшскімі дыфтонгамі, — лічыць Анна Фіёнік, якая вельмі высока ацэньвае музычную вартасць выдадзенага песеннага матэрыялу.

Выканаўцамі песень на дыску з'яўляюцца Вера Грыгарук (1907 года нараджэння), Анастасія Міхальчук (1902 г. нар.) і Люба Місюк (1905 г. нар.). У магістарскай працы Валянціны Міхальчук ёсць таксама песні ў выкананні жанчын, якія нарадзіліся пазней. Гусакі былі расспяванай і музыкальнай вёскай. У мясцовай капэле ігралі Аляксей Грыгарук, Лявон Грыгарук, Эдмунд Кузміцкі і Аляксандр Федарук. Названне для кампакт-дыска дала песня «Чы я ў лузі не каліна».

— Наша моладзь у мінулым вельмі любіла спяваць. Нават у час забаваў было так, што затанцуем адзін танец і спяваем нейкую песню, а пасля ізноў напераменн танцуем і спяваем, — расказваў Рыгор Міхальчук.

— Калі спытаеш пра Гусакі, мала хто ведае, дзе яны знаходзяцца. Ад часу, калі ўпала значэнне Суража, да гэтага прынарваўскага мястэчка мала хто ездзіць старым бельскім гасцінцам, праз Страблю. Даўно мінулі часы, калі суражскім трактам ездзілі вялікія князі, у Сталовачы быў двор бельскіх старастаў, а ў Райск ішлі тысячы паломніакаў пакланіцца цудатворнай іконе. Усё гэта знаходзілася блізка Гусакоў — беларускай вёскі, распалажанай на этнічнай польска-рускай мяжы, — напісалі Анна і Дарафей Фіёнікі ў артыкуле «Гусакова даліна», змешчаным у выданні «Бельскі гостінэць» (№ 1, ад 2012 года). У 1896 годзе ў Гусаках было 59 дамоў, у якіх жыло 167 мужчын і 170 жанчын. Усе яны ў 1915 годзе адправіліся ў бежанства, а ўся вёска была спалена.

— Звыш кіламетра ад Гусакоў знаходзяцца Мулявічы, дзе жывуць ужо палякі-католікі. Польская культура гэтага і іншых суседніх польскіх вёсак напэўна мела ўздзеянне на фальклорную культуру Гусакоў, але на працягу доўгага мінулага не спрычынілася да асіміляцыі Гусакоў з польскай большасцю. Гэтая беларуская вёска захавала свой вельмі багаты фальклор, аб чым сведчыць між іншым магістарская праца Валянціны Міхальчук, — заявіў Дарафей Фіёнік.

— Невядома якой будзе будучыня нашага сяла Гусакі, якое зараз моцна пусцее. З ліку амаль 50 жыхароў нашай вёскі выдатную большасць складаюць пенсіянеры, а з ліку каля 60 дамоў, звыш 20 хат ужо пустуюць. Пасля правядзення ў нас дрэнажавання, нашая бурачаная зямля стала вельмі добра радзіць. Зараз у галоўным жыхары суседніх польскіх вёсак купляюць у нас усю зямлю, якая выстаўляецца на продаж, і плацяць ажно звыш дваццаці тысяч злотых за гектар, а то і больш. Ёсць у Гусаках адзін малодшы гаспадар, які яшчэ дакупіў сабе крыху зямлі, але ў асноўным нашае поле трапляе ў рукі іншавяскоўцаў. Пасяліліся ў нас дзве польскія сям'і. Можа некаторыя нашыя хаты купяць і іншыя прыезджыя людзі, — разважаў Рыгор Міхальчук. — Хаця мой зяць са шляхты, а нявестка ўкраінка, я да сваіх унукаў гавару па-нашаму, каб ведалі яны мову продкаў, бо гэта важная справа. Я выхоўваў сваіх дзетак пры царкве. Зараз мой сын служыць свяшчэннікам у Гажове-Велькапольскім. На прыхадскія святкаванні я наведаў мноства нашых парафій і вучыў дзяцей трымацца свайго веравызнання. Але не ведаю, як будзе з нашымі Гусакамі, калі мы, старэйшыя праваслаўныя людзі, паўміраем.

Музычны кіраўнік бельскага «Антракта» Альжбета Фіёнік паведаміла, што вельмі ўдала прайшло калядаванне «Жэмэрвы» ў Гусаках на першы дзень Хрыстовага Нараджэння, калі каляднікі раздавалі вяскоўцам музычны альбом «Чы я ў лузі не каліна. Песні беларускай вёскі Гусакі».

— Сардэчна прымаў нас там перш за ўсё солтыс Андрэй Ліпата. Вяскоўцы з ахвотай слухалі нашага калядавання, — успамінала Альжбета Фіёнік.

Студзіводскі музей ужо раней ладзіў у вёсцы Гусакі мерапрыемства аднаўлянна Юр'еўскага абраду.

— Добра, што Дарафей Фіёнік арганізаваў у нас вясной фальклорнае мерапрыемства, у час якога вяскоўцы маглі паслухаць нашыя даўнія песні. Цікавым было таксама калядаванне, падчас якога Дарафей пакінуў у нас кампакт-дыскі з нашымі песнямі. Мы іх праслухалі і паўспаміналі аб мінулым, — сказаў Рыгор Міхальчук.

# За Бобрай (2)

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Краявід прадаліны Бобры; у фоне вёска Яглова

**Чарговая вёска за Ямінамі называецца Могільніцамі. Гэтыя дзве назвы быццам аднаго паходжання і падказваюць, што наваколле магло быць сведкам нейкіх сумных падзей, памятка па якіх асталася ў тапаніміі. Сапраўды, не было там весела.**

У сярэднявеччы на поўнач ад Бобры жылі яцвягі. Дажылі яны да канца XIII стагоддзя. Геаграфічны слоўнік Польскага Каралеўства ад 1885 года так пісаў пра канец іх існавання: „R. 1264 pokonały wojska krakowskie Jadźwingów, i ich wodza Komata położyły trupem. Pod r. 1282 jedne źródła zapisują zwycięstwo Leszka Czarnego nad Litwą, inne nad Jadźwingami, których dognał za Narwią. Długosz walkę tę uważa za kres bytu Jaćwieży, wytępionej podówczas co do nogi”.

Аднак цікавую згадку пра яцвягаў падае Іпацьеўскі летапіс: „Въ лето 6787 (1279). Голодъ бысть по всей земле: и в Руси, и в Ляхох, и в Литве, и въ Ятвязехъ. Посем же ятвязе прислаша послы своя к Володимирови, тако рекуче: „Господине княже Володимере, приехали есмя к тобе ото всихъ ятвязь, надеючесь на Богъ и на твое здоровие. Господине, не помори насъ, но перекорми ны собе! Пошли, господине, к намъ жито свое продаятъ, а мы ради купимъ. Чего восхочешь: воску ли, бели ль, бобровъ ли, черныхъ ли кунъ, серебра ль, мы ради дамы”. Володимерь же из Берестья посла к нимъ жито в лодьяхъ по Бугу с людми с добрыми, кому веря. Идущим же имъ по Бугу, и тако возиидоша на Наровь, и поидоша по Нарови. Идущимъ же имъ, и придоша подъ городъ подъ Полтовескъ, ту же сташа на нощь опочиватъ собе. И тако избити быша вси подъ городомь в ночь, жито поимаша, а лодья потопиша”. Значыць не толькі бравыя суседнія рыцары разбілі яцвягаў, але і голад наканаваў іх трагічны лёс. Да таго ж яшчэ і пултускія рабаўнікі...

Як падае партал Штабінскай гміны, вёска Яміны ўпершыню згадвалася ў 1494 годзе — два стагоддзі пасля апошніх яцвягаў. А Могільніцы былі заснаваны ў час, калі Ямінскую пушчу арандавала сям’я Сапегаў, якая пераняла яе ў 1712 годзе. Раней жа ўладарыў там Кшыштаф Сяніцкі, пра якога была ўжо мова ў 21-м мінулагоднім нумары „Нівы”. Прыпомню, што ў ходзе Паўночнай вайны трапіў ён у расійскі палон і ў Сібір. Паўночная вайна прынесла наваколлю Аўгустова вялікія спусташэнні ад праходзячых тудою розных войск, пасля якіх настаў голад, а пасля голаду — мор. Цалкам магчыма, што рэзюмэ таго перыяду запісалася ў назве Могільніцы.

Можа тут у каго ўзнікнуць пытанне, чаго я павалокся за тую Бобру, валачыцца па нейкіх Ямінах ці Могільніцах. Вось тут хачу прыпомніць, што тамашнія землі былі калісь часткай гістарычнага Падляшша, а дакладней — Бельскай зямлі. Зыгмунт Глогер: „Właściwe, to jest pierwotne Podlasie było pasem ziemi, ciągnącym się z północy od ziemi pruskiej i jezior: Rajgrodzkiego i Necko (pod dzisiejszym Augustowem), w kierunku południowym aż pod Radzyń i Parczów. Ziemia Bielska była z trzech ziem podlaskich największą, bo stanowiła północną połowę Podlasia z miastami i miasteczkami: Bielsk, Narew, Orla, Kleszczele, Boćki, Brańsk, Suraż, Białystok, Tykocin, Knyszyn, Goniądz, Choroszcz, Jasionówka, Rajgród i Augustowo”. А Юзэф Марошэк: „[Netta] oraz Biebrza i jej inny dopływ Brzozówka, aż po dzień dzisiejszy wyznaczają zachodni zasięg gwar wschodniosłowiańskich”. І выпадае яшчэ прыпомніць, што сюды сягалі таксама ўплывы ўсходняга хрысціянскага абраду: у Асінках — так калісь называўся Штабін — была калісь толькі царква, цяпер там толькі касцёл; пра гэта была мова ў 13-м нумары „Нівы” ад 2010 года. Моўныя і канфесійныя змены, якія там наступілі, не былі вынікам толькі канверсіі вышэйшых, а за імі і ніжэйшых слаёў грамадства, былі яны таксама вынікам ваенных і моравых спусташэнняў, якія аднаўляліся больш магутным дэмаграфічным рэсурсам: маскоўскае нашэсце цара Аляксея Міхайлавіча ў 1657 годзе на Вялікае Княства Літоўскае намнога больш аслабіла рэсурс беларускага насельніцтва, чым шведскі „патоп” у той жа час польскі рэсурс.

Могільніцы з’яўляюцца даволі доўгай вуліцоўкай. Хаты там часткова драўляныя, часткова мураваныя, аднак дызайнам яны мала адрозніваюцца ад тых, што ў паўднёвай частцы „północnej połowy Podlasia”. Ёсць там, аднак, збудаванні, якіх у сённяшняй Бельшчыне няма — гэта даволі высокія драўляныя сушыльні тытунёвага лісця. Геаграфічны слоўнік Польскага Каралеўства так згадваў пра гэтую вёску: „Mogilnica alias Mogielnica, wś, pow. augustowski, gm. Dębowo, par. Jaminy, odl. 22 w. od Augustowa. Leży na piaszczystej wyniosłości, górującej nad błotami rz. Biebrzy; ma 54 dm., 505 mk., 1305 mr. obszaru. W 1827 r. wś rząd., 42 dm., 254 mk.”.



Рыбаловы на Аўгустоўскім канале



Крыж каля Ясянова

У апошняй цытаце не статыстыка важная, істотная тут назва Дэмбова, бо адтуль пачынаецца Аўгустоўскі канал, там яго першы шлюз пры ўпадзенні Нэты ў Бобру. А Аўгустоўскі канал з’яўляецца такой жа тэмай беларуска-польскіх міждзяржаўных адносін, як чарговыя пагранпераходы ці славуты малы памежны трансгранічны рух. Сёння канал перасечаны дзяржаўнай граніцай, а будаваўся ён з той мэтай, каб такую, у той час пруска-польскую, граніцу абмінуць...

Баланс замежнага гандлю Польскага Каралеўства ў пачатку 1820-х гадоў быў вельмі адмоўны і цар Аляксандр І пажадаў адмяніць гэтую сітуацыю. Дзеля гэтага назначыў ён міністрам скарбу Каралеўства князя Друцкага-Любецкага, які зараз увёў высокія пошліны на прамысловыя тавары, імпартаваныя з Прусіі. У адказ прускае кіраўніцтва павысіла пошліны на польскае збожжа, якое вывозілася Віслай. Міністр вырашыў абмінуць прускую тэрыторыю і збудаваць сістэму каналаў між Бобрай і Нёманам ды Нёманам і Вентай, якая ўліваецца ў Балтыку ў колішняй Віндаве, якая зараз называецца Вентспілсам. Цар адобрыў прапанову. Геаграфічны слоўнік: „Augustowski Kanał miał na celu połączenie Wisły z Niemnem dla zabezpieczenia handlu Królestwa od przeszkód, jakie mu stawiał system celny pruski. Bierze on początek przy wsi Dembowo, przy ujściu Netty do Biebrzy, na granicy gub. suwalskiej i grodzieńskiej, gdzie znajduje się główna przystań dla statków. Połączenie z Wisłą ma miejsce za pośrednictwem Biebrzy, która, przyjąwszy Nettę, wpada pod Wizną do Narwi, prowadzącej swoje wody do Wisły pod Modlinem. Cała ta droga wodna ma 438 wiorst długości, lecz nie przynosi obiecywanych korzyści a po zbudowaniu kolei żelaznych straciła do reszty swe znaczenie i dziś służy tylko dla wewnętrznego, bardzo słabego ruchu handlowego, gdyż brak wody nie dozwala krążyć większym statkom i żeglować po kanale z pożądaną szybkością. Ponieważ poziom wód kanału jest o wiele wyższym niż w rzekach z nim połączonych, przeto zbudowano na 175 wiorstach całej długości kanału 21 śluz, długich na 156 st. i szerokich na 20 st. Budowa kanału rozpoczętą została w 1824 i prowadzona była przez osobny korpus inżynierów pod kierunkiem generała Maletskiego przez 6 lat do 1830. Po przerwie wywołanej wojną 1831 r. roboty dalsze prowadził Bank Polski od 1833 do 1839 r.”.

Не толькі пабудова чыгунак звяла ў нішто ролю Аўгустоўскага канала, бо ўжо некалькі гадоў пасля пачатку яго пабудовы было завершана згаданае таможнае змаганне і зноў паплылі тавары Віслай у Гданьск. Не меў шчасця транспарт збожжа Нарваю і Бобраю ў час валынскага князя Уладзіміра Васількавіча, пляменніка драгічынскага караля Данілы Раманавіча; падобная няўдача атрымалася і ў цараванне імператара Аляксандра І. А мела быць гэта маштабнае збудаванне, па якім маглі б хадзіць „берлінкі”, значыць так вялікія баржы, якія ў той час плавалі між Берлінам і Шчэцінам; шырыня воднага шляху павінна была быць не меншай за дванаццаць метраў, а глыбіня — паўтара. І такі канал між Бобрай і Нёманам быў пабудаваны за сродкі Польскага Каралеўства: другая частка сістэмы — між прытокам Нёмана Дубісай і Вентай за сродкі Расійскай Імперыі — не была рэалізавана.

У Дэмбове шлюз, пабудаваны ў 1826-1827 гадах, паралельны з магутнай запрудай, мэтай якой паглыбленне рэчышча Нэты. Шлюзны рукаў у зімовую пару скаваны ільдом, на якім групкі рыбаловаў вудзяць рыбу ў прабітых палонках. Побач Нэты насыпана бурлацкая грэбля шырынёй у два сажні (4,3 метра); у час, калі будаваўся канал, паравыя машыны толькі што ўводзіліся ў карыстанне і то далёка адгэтуль. Для транспарту супраць цячэння трэба было прымяняць цяглавую сілу: да суднаў запрагалі коней або цягнулі іх бурлакі, як на славутай карціне расійскага жывапісца Ільі Рэпіна.

Збудаванне Аўгустоўскага канала, які ўжо ў ходзе будовы стаў траціць задуманае значэнне, прынесла, аднак, некаторыя гаспадарчыя карысці. Уздоўж яго былі пабудаваны склады і, напрыклад, млыны. Былі зменены старыя рэчышчы (напрыклад Нэта, якая ўлівалася ў Бобру каля Далістова, цяпер у тую ж Бобру ўліваецца каля Дэмбова — каля дзесяці кіламетраў „раней”), што не толькі скараціла водныя шляхі, але таксама асушыла шмат балотаў, дзе стала магчымым сельскагаспадарчае іх выкарыстанне. Відаць гэта сёння на прыкладзе вёскі Ясянова, раскіданай па хутарах, дзе амаль на кожным хутары красуецца вялікая абора. Сайт Штабінскай гміны: „W połowie XVI wieku zwrócono uwagę, że przychodzą tu często kłusownicy z Mazowsza i Prus i „robią szkody wśród pogłowia zwierząt w lasach królewskich”. Dlatego władze królewskie rozpoczęły starania o osadzenie tutaj strażników leśnych, którzy pilnowaliby tych terenów przed kłusownikami. Wioska została włączona do parafii w Dolistowie, jej mieszkańców zwano bojarami”. Але ў тым часе лясы паплылі Бобрай у напрамку Гданьска, а нашчадкі колішніх баяраў сталі займацца надоямі малака.

Дарога побач Могільніц, Дэмбова і Ясянова з’яўляецца часткай дарогі з Аўгустова ў напрамку Далістова. Да Ясянова яна пад асфальтавым насцілам, пазней становіцца жвіроўкай, якую перад самім Далістовам крыху размывае паўнаводная Бобра; яна там у скаваны марозам час роўная з берагамі, а ў час адлігі... Жвіроўка, мабыць, была прадбачана быць бурлацкай грэбляй, яна пралягае побач рэчышча. Толькі ў месцы ўпадзення Беразоўкі Бобра быццам на момант адбягае ад дарогі і хаваецца ў трыснегавых зарасніках, злучаюцца з сабою рэчкі прыхавана, быццам парка пасля вясковай забавы...

(працяг будзе)

Васіль САКОЎСКІ

# Кастусь Каліноўскі і беларуская справа

Утрэцім нумары „Нівы" ад 20 студзеня 2013 г. у артыкуле Сяргея Чыгрына чытаем: „Яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў паміж беларускім гісторыкам Міхасём Бічом і літаратуразнаўцам Уладзімірам Казберуком узнікла спрэчка ў пытаннях грамадска-палітычных поглядаў Кастуся Каліноўскага. Уладзімір Казбярук лічыў дзейнасць Кастуся Каліноўскага выключна польскай. Міхась Біч не пагаджаўся з такімі аргументамі і казаў, што погляды У. Казберука супадаюць з ацэнкай дзейнасці К. Каліноўскага савецкімі гісторыкамі 1930-х гадоў. Але навуковыя даследчыкі пагадзіліся ў адным моманце, што падзеі звязаныя з паўстаннем 1863-1864 гадоў можна лічыць пачаткам беларускай нацыянальнай ідэі ці, прынамсі, пачаткам пачатку".

Спрэчкі на тэму грамадска-палітычных поглядаў Кастуся Каліноўскага ўзніклі не на пачатку 1990-х гадоў, а значна раней і працягваюцца ўвесь час аж дасюль, хаця ад Студзеньскага паўстання мінула ўжо 150 гадоў. І, канешне ж, найбольш востра праходзяць гэтыя спрэчкі ў асноўным на Беларусі і на нашай Беласточчыне. І не дзіва, бо нам, беларусам, вельмі ж важна: ці Кастусь Каліноўскі годзен насіць званне беларускага нацыянальнага героя, ці не вельмі?!

І так, адны вучоныя лічаць К. Каліноўскага самым яскравым, самаадданым і самым таленавітым змагаром за беларускія нацыянальныя справы, другія — больш памяркоўныя ў пахвалах яго заслуг для беларускага народа, а трэція — як напрыклад спамянуты тут У. Казбярук — і зусім лічаць К. Каліноўскага змагаром не за беларускія, а выключна польскія справы. У такіх выпадках — паводле народнай мудрасці — праўда ляжыць дзесьці ў самай залатой сярэдзінцы. А гэта ў сваю чаргу значыла б, што беларускія нацыянальныя справы не былі для К. Каліноўскага галоўнай жыццёвай мэтай. А з другога боку ён быў не супраць таго, каб на Студзеньскім паўстанні скарысталі крыху і беларусы. Не бясплатна, канешне.

Цяпер давайце разглянем усе „за" і „супраць" аднаго і другога пункту гледжання.

Хаця ў беларускім нацыянальным пытанні К. Каліноўскі і не ўспеў да канца раскрыцца, але вядома, што ніхто да яго так востра не ставіў беларускага пытання і так востра не выступаў супраць таго, каб лёс Беларусі вырашаў Пецярбург ці Варшава. Гаварыў з беларусамі на беларускай мове, выдаваў беларускую газету „Мужыцкая праўда", аставіў па сабе трагічна-прыгожы „Ліст з-пад шыбеніцы". І гэта, па-мойму, былі б аргументы „за" К. Каліноўскім як беларускім нацыянальным героем....

З другога боку, у некаторых даследчыкаў паяўляюцца небеспадстаўныя падазрэнні, што К. Каліноўскі не да канца быў публічна шчыры ў сваіх грамадска-палітычных і нацыянальных поглядах. Як прафесійны рэвалюцыянер ён дасканала ведаў, што пераможным можа быць толькі масавае народнае паўстанне, а без удзелу беларусаў яно такім на Беларусі і Літве быць не магло. Вось і пайшла ў рух розная сацыяльна-нацыянальна-рэлігійная агітацыя, сацыяльна-нацыянальныя абяцанкі, каб толькі прыцягнуць беларусаў да паўстання. Аднак масавага шэсця беларусаў у паўстанне не наступіла, бо ўсё ж такі адбыліся ўжо адмена прыгоннага права і зямельная рэформа. І многія беларусы былі праваслаўнага веравызнання. А да праваслаўя і праваслаўных паўстанцы адносіліся невядома чаму з непрыхаванай варожасцю. Нямала праваслаўных святароў загінула тады. Што гаварыць тут пра радавых паўстанцаў, калі такі мацёры рэвалюцыянер, як К. Каліноўскі называў праваслаўе сабачай верай. Значыць трэба думаць, што пасля перамогі Студзеньскага паўстання зноў чакалі б нас царкоўныя ўніі. Ня́добра калі гэта суседзі патрабуюць, якімі павінны быць беларусы. Адным словам, астаўляюць за сабой права быць старэйшым братам, нягледзячы ці гэта ўсходні, ці заходні сусед.

І нават пасля паражэння Студзеньскага паўстання і прабываючы за граніцай польскія патрыятычна-рэвалюцыйныя эліты ніяк не выпускалі са сваіх рук ролі старэйшага брата русінаў (беларусаў і ўкраінцаў), хаця ў русінаў паявіўся ўжо новы старэйшы брат, цяпер ужо ўсходняга разліву. Нават такія вядомыя паўстанцы, як напрыклад Валеры Врублеўскі, з каманды К. Каліноўскага — паплечнік, аднадумца і найвернейшы выканаўца загадаў дыктатара. Як і Каліноўскі, ён выступаў перад народам у беларускім нацыянальным адзенні, меў непасрэднае дачыненне да выдання „Мужыцкай праўды" ды і ўвогуле быў, падобна, узорам нацыянальна-рэлігійнай талерантнасці. А вось на эміграцыі мы бачым ужо зусім іншага В. Врублеўскага, бо няма ўжо сэнсу прыкідвацца вялікім прыхільнікам русінскай справы — пакуль беларускія косы сталі непатрэбныя. Справа адраджэння Польшчы была аднак надалей для іх найважнейшай. Канешне, надалей з беларускімі і ўкраінскімі землямі, душамі і правам рашаць русінскія справы без русінаў. Такая пазіцыя В. Врублеўскага кідае, канешне, цень і на К. Каліноўскага.

Не дае мне спакою і яшчэ адна справа звязаная з К. Каліноўскім. Мы прывыклі да таго, што ў Польшчы вельмі цэняць і не забываюць сваіх герояў, а найбольш тых, хто змагаўся ці аддаў сваё жыццё за незалежную Польшчу. Праўда, часамі траплялі туды і зусім незаслужана, як напрыклад розныя Райсы ці Лупашкі, якія палілі нашы вёскі, мардавалі нашых людзей толькі за тое, што яны беларусы, праваслаўныя...

К. Каліноўскі аддаў сваё маладое жыццё за Польшчу, ды ў якім стылі аддаў яго. Аддана і ўмела рыхтаваў Студзеньскае паўстанне. Ад пачатку і да канца ваяваў і кіраваў ім. Нават тады, калі адна за адной шляхецкія дэлегацыі пёрлі з вернападданніцкімі лістамі на імя цара, перапрашаючы цара і завяраючы аб сваіх вернападданніцкіх пачуццях. Папаўшы ў турму К. Каліноўскі нікога не выдаў і трымаўся дастойна, геройска. Нават царскія следчыя сцвярджалі гэта...

А вось успамінаюць аб ім у Польшчы вельмі рэдка, неахвотна і толькі тады, калі ўжо ніяк абмінуць яго нельга... У чым жа справа і чым ён так падмачыў сваю рэпутацыю? Па-мойму адказ тут просты: або сваёй „чырвонасцю" (такога колеру ў нас не любяць), або сваёй прабеларускасцю (аб чым мы да канца ніяк не можам пераканацца), або адным і другім...

Вяртаючыся да Казберука, трэба сказаць, што Казберукі былі даволі блізкімі суседзямі Каліноўскіх і маглі штосьці аб іх ведаць, чаго мы не ведаем...



## Гродзенскае абласное грамадскае аб'яднанне маладых навукоўцаў

http://vitngo.org

Сёння ад многіх у Беларусі можна пачуць, што, маўляў, няма ў краіне грамадзянскай супольнасці. То бок краіна нібыта ёсць, грамадзяне, што засведчана іхнімі пашпартамі, таксама ёсць, а супольнасці грамадзянскай няма. Так гэта ці не так, цяжка сказаць, асабліва ўлічваючы тое, што жывуць насельнікі Беларусі ва ўмовах такой унутранай палітыкі, якая, мякка кажучы, не спрыяе буйному росквіту грамадзянскай ініцыятывы. Разам з тым, цалкам адмаўляць існаванне ў Беларусі грамадзянскай актыўнасці немагчыма, бо ўсё тое, што рабілася і робіцца па-за чыноўніцкай згодай і ёсць праявамі грамадзянскага руху.

Адной з такіх праяў з'яўляецца „Гродзенскае абласное грамадскае аб'яднанне маладых навукоўцаў ВІТ", якое ставіць адной з галоўных сваіх мэт „стварэнне беларускага грамадзяніна, які ўсведамляе свае карані, сваю ролю ў супольнасці і ладзіць свой свет".

Каб бліжэй пазнаёміцца са „стваральнікамі" беларускіх грамадзян варта зазірнуць на сайт гэтага аб'яднання, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://vitngo.org. Выгляд яго беднаваты — няма ні цікавых аздабленняў, ні мультымедыйнасці, але ёсць цікавыя высновы маладых гарадзенскіх навукоўцаў.

„З пункту гледжання заснавальнікаў арганізацыі паняцце сацыяльна-актыўнага грамадзяніна цесна знітавана з паняццямі нацыянальнай свядомасці і гістарычнай памяці, якія граюць ролю базіса сацыяльнай актыўнасці, надаюць сэнс сацыяльнай дзейнасці грамадзяніна, робяць яго грамадзянскую пазіцыю абгрунтаванай і неадарванай ад інтарэсаў супольнасці", — так акрэсліваюць паняцце грамадзяніна ВІТаўцы на старонцы „Пра ВІТ". Тут цяжка не ўступіць у спрэчку. Возьмем, напрыклад, падзеі амаль стагадовай даўніны ў Расіі. Актыўнасць бальшавікоў, распаўсюд іх ідэй на вялікую колькасць людзей перакрэслілі ўвогуле паняцце айчыны, а ўсё, што было за царскім часам, было названа „праклятым мінулым".

Прадстаўляючы сваю арганізацыю, яе актывісты ўказваюць, што яна мае 12 трэнераў, якія спецыялізуюцца ў розных аспектах праваевой і грамадзянскай адукацыі, і якія маюць досвед правядзення адукацыйных мерапрыемстваў як у Рэспубліцы Беларусь, так і за яе межамі. Арганізацыяй падрыхтавана і выдадзена 16 метадычных дапаможнікаў і падручнікаў па тэматычных накірунках дзейнасці арганізацыі. Каб бліжэй пазнаёміцца з гэтымі выданнямі, трэба зайсці на старонку „Бібліятэка". Там ідзе не толькі пералік выдадзеных матэрыялаў, але і падаюцца іх выяўленні.

„З моманту свайго заснавання Грамадскае аб'яднанне „ВІТ" працуе па праграмах падтрымкі маладых навукоўцаў-гуманітарыяў, а таксама адукацыйных праграмах для моладзі ды асоб і арганізацый, што працуюць з моладдзю ў галіне грамадзянскай і праваевой адукацыі, а таксама адукацыі ў галіне правоў чалавека", — распавядаюць пра вызначэнне накірункаў сваёй дзейнасці ВІТаўцы на старонцы „Праграмы ВІТа". Адным з прыярытэтных накірункаў яны называюць навуковы, які тычыцца беларускай мовы, актуальных праблем права, вывучэння Вялікага Княства Літоўскага і гісторыі беларускага нацыянальнага руху.

Зважаючы на змест сайта, варта прызнаць, што займаюцца ВІТаўцы карыснай справай развіцця беларускай грамадзянскай супольнасці, нягледзячы на сваё парадаксальнае сцвярджэнне аб адсутнасці „беларускага грамадзяніна, які ўсведамляе свае карані, сваю ролю ў супольнасці".

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара



Бацька беларускага тэатра

# 195 гадоў з дня нараджэння Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча

4 лютага споўнілася 205 гадоў з дня нараджэння аднаго з заснавальнікаў беларускай літаратуры — пісьменніка, жыццёвы лёс якога лёг кутнім каменем у фармаванне нацыянальнай свядомасці насельнікаў Беларусі. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся ў 1808 годзе ў фальварку Панюшкавічы на Бабруйшчыне ў сям'і дробнага шляхціца. Першую адукацыю атрымаў у Бабруйскай павятовай школе, потым скончыў медыцынскі факультэт ні то Віленскага, ні то Пецярбургскага ўніверсітэта. Пазней служыў у Мінску дробным чыноўнікам. У 1840 годзе пакінуў службу і набыў сабе фальварак Люцынка каля Івянца. Менавіта тут і разгарнулася ўся культурніцкая і асветніцкая дзейнасць.

У час падзей 1863-1864 гадоў Дунін-Марцінкевіч арыштоўваўся і абвінавачваўся ў распаўсюдзе „шкодных ідэй", аднак даказаць яго ўдзел у паўстанні не змаглі і асветнік быў выпушчаны пад нагляд паліцыі. Вядома, што ў паўстанні ўдзельнічала яго дачка Каміла.

Пісаў Навум Прыгаворка (адзін з псеўданімаў Марцінкевіча) па-польску і па-беларуску. Творчасць пачыналася са стварэння оперных лібрэта. У 1846 годзе з'явіўся яго драматычны твор „Сялянка" (ці па-іншаму „Ідылія"), які быў надрукаваны ў Вільні, а пастаўлены на мінскай сцэне. Пазней у 1850-я гады былі напісаны іншыя паэтычныя творы, вершаваныя аповесці і апавяданні — „Вечарніцы" і „Гапон" (1855), „Купала" (1856), „Шчароўскія дажынкі", „Травіца брат-сястрыца" і „Быліцы, расказы Навума" (напісаны ў 1857 годзе). Сярод творчых дасягненняў Марцінкевіча і першы пераклад „Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча на беларускую мову. Але галоўнай заслугай Дуніна-Марцінкевіча было стварэнне ў Люцынцы тэатральнай трупы — пасутнасці першага беларускага тэатра. Акрамя ўласна фальварка пастаноўкі ставіліся на сцэнах Мінска, Бабруйска. Найбольш значныя свае творы Марцінкевіч напісаў у 1860-1870-я гады — гэта камедыі „Пінская шляхта" і „Залёты". Прадметам творчасці Дуніна-Марцінкевіча стала народнае жыццё, характар насельнікаў беларускай зямлі, які ён раскрывае з уласцівым яму гумарам і іроніяй. Значная частка твораў Дуніна, у тым ліку камедыі, не ўбачылі свету пры жыцці аўтара.

Роля Дуніна-Марцінкевіча ў развіцці нацыянальнай беларускай літаратуры вельмі значная. Ён адным з першых падышоў да яе афармлення ў самастойную літаратуру, прычым зрабіў гэта ў вельмі неспрыяльнае XIX стагоддзе. Пачаўшы пісаць па-беларуску, ён сутыкнуўся з лексічнымі цяжкасцямі, але зрабіў важкі крок па ўнармаванні літаратурнай мовы, увёў у шырокі ўжытак лексіку з розных рэгіёнаў.

Памёр Дунін-Марцінкевіч у 1884 годзе, пахаваны ў Тупальшчыне (вёска Паднявічы, недалёка ад Люцынкі, цяпер Валожынскі раён). Імя асветніка носіць вуліца ў Мінску. У 2008 годзе Нацыянальны банк Беларусі ўвёў у абарачэнне памятныя манеты „В. Дунін-Марцінкевіч. 200 год". Іншых паўнавартасных помнікаў няма.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Чаромхаўскія жанчыны

**Гартаю падшыўку „Нівы", перачытваю свае допісы. Колькі іх надрукавана, цяжка сказаць. Сотні, тысячы... Кароценькія інфармацыі, рэпартажы, фельетоны, казкі для дарослых. Асаблівую частку складаюць аповеды старажылаў, якіх у большасці няма ўжо ў жывых. Захавалася па іх адно памяць і ўспаміны, зафіксаваныя ў летапісе, якія ў спадчыну пакінулі яны патомным. Гэта і ёсць гісторыя нашай Малой айчыны — Чаромхаўскай зямлі...**

Гурток вясковых гаспадынь (КГВ) у Чаромсе арганізаваўся ў маі 1970 года. У пачатках лічыў 21 член. У сакавіку 1976 года налічваў больш за сто чалавек. Пад старшынством Сабіны Зажыцкай гурток дабіўся немалых поспехаў. На працягу пяці гадоў жанчыны арганізавалі тры курсы пячэння, два варэння, адзін кравецкі. Ладзілі паказы моды, танцавальныя вечарыны і святочныя вечарыны з нагоды дзяржаўных гадавін. Займаліся гадоўляй куранят і качанят. Апрача тыпова жаночых і гаспадарчых спраў жанчыны аб'яднаны ў КГВ удзельнічалі ў ідэалагічна-палітычным навучанні. Арганізацыя дынамічна працавала і была адной з актыўнейшых у ваяводстве.

Галена Крычко прафесіянальна працавала сакратаром у гміне. Адначасова выконвала абавязкі сакратара Гміннай рады жанчын і лічылася душой КГВ. Добрасумленны працаўнік і самаахвярны грамадскі дзеяч. У мясцовым асяроддзі інакш яе не называлі, як „наша пані Хэля...". У летнім сезоне КГВ арганізавала па вёсках дзіцячыя садкі. Не ў кожнай, разумеецца, але там, дзе людзі хацелі. Вядучае месца ў гэтай справе займалі жанчыны з вёскі Чаромхі. Там штогод быў арганізаваны дзяцінец. У рамках шырока разгорнутай культурнай дзейнасці гурток вясковых гаспадынь ладзіў танцавальныя вечарыны, даход з якіх прызначаўся на ўласныя патрэбы. У 1976 годзе, напрыклад, на рахунку КГВ знаходзілася 8 500 злотых. З таго заплацілі 700 зл. на каралеўскі замак у Варшаве і 500 зл. на Цэнтр здароўя дзіцяці. З апошніх грошай аплачвалі выкладчыкаў курсаў. Са свайго бюджэту арганізавалі таксама канцэрты школьнікам з нагоды Дня дзіцяці. У 1971 годзе найбяднейшым дзеткам купілі падарункі (школьныя ўборы і прыборы). Важаком і ініцыятарам грамадскіх ідэй была Сабіна Зажыцкая, якая старшынствавала гуртку з першых дзён яго заснавання. З'яднала яна сімпатыю жыхароў лакальнай грамадскасці і карысталася належным даверам насельніцтва. За грамадскую дзейнасць была ўзнагароджана ганаровай граматай Цэнтральнага праўлення сельскагаспадарчых гурткоў у Варшаве і атрымала медаль „Сэрца маці". Актыўна працавалі Ванда Бэднарчык, Ксенія Вайдакоўская (старшыня Гміннай рады жанчын), Яніна Скок, Софія Кердалевіч, Валянціна Яфімюк і Софія Міхальская. Усе яны былі прыкладнымі маці для дзетак і жонкамі для мужаў. Гэта быў сапраўдны авангард адданых справе людзей. Нягледзячы на безліч сямейных абавязкаў, патрапілі яны знайсці хвіліну часу і прысвяціць сябе грамадскай справе.

Фота Уладзіміра Сідарука

Яніна Скок віншуе войта Юрыя Шыкулу з уступленнем на пасаду (2010 г.)

У коле чаромхаўскіх дзеячак цікавую постаць прадстаўляла Яніна Скок. Настаўнічала яна ў Пачатковай школе. Педагагічны ліцэй закончыла ў Ломжы ў 1953 г., а Настаўніцкую студыю ў 1964 г. у Беластоку. Прафесійную кар'еру пачынала ў прыгранічным Масеве Нараўчанскай гміны. Пасля двух гадоў накіравалі яе ў Чаромху і тут ад 1955 года пасялілася на пастаяннае жыхарства. Яніна Скок была выхавацелькай маёй старэйшай дачкі ад першага класа. Наладзіліся ў нас сяброўскія адносіны. Часта мы сустракаліся і размаўлялі аб хвалюючых чыгуначную Чаромху праблемах. Пані Яся, бо так яе клікалі настаўнікі і вучні, дзякуючы выдатнай педагагічнай і грамадскай дзейнасці, хутка заваявала давер і пашану сярод настаўнікаў. Была выбрана членам Галоўнага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў. Працавала ў Радзе спорту, фізічнага выхавання і турызму. Восем гадоў узначальвала прафсаюзную арганізацыю настаўнікаў у чаромхаўскай школе. У 1976 г. удзельнічала ў XII Краёвым з'ездзе Саюза польскіх настаўнікаў. Сярод 400 дэлегатаў з усяе краіны Беластоцкае ваяводства прадстаўляла 6 чалавек — 4 дэлегаты з Беластока, адзін з Бельска-Падляшскага і Яніна Скок з Чаромхі. Год пазней у чарговым з'ездзе Саюза польскіх настаўнікаў удзельнічала 1300 дэлегатаў. У групе 15 дэлегатаў з Беласточчыны Яніна Скок была адзінай, якая рэпрэзентавала настаўнікаў з вясковага асяроддзя. Кангрэс праходзіў напярэдадні новай школьнай рэформы. Ад 1978 года пачала абавязваць дзесяцігадовая школьная сістэма. Чаромхаўская настаўніца даступіла гонару ўдзельнічаць у гістарычнай падзеі. За грамадскую і педагагічную працу Яніна Скок была ўзнагароджана залатым значком Саюза польскіх настаўнікаў, Залатым крыжам заслугі і значком „Заслужаны для Беласточчыны". У 1988 годзе выйшла яна на пенсію. І хоць адышла на заслужаны адпачынак, не парвала кантактаў са школай і мясцовым асяроддзем. Не зважаючы на ўзрост (81 год), далей уключаецца ў дзейнасць чыгуначнага асяроддзя. А калі спатрэбіцца, дык удзельнічае ў сесіях Рады гміны і бярэ голас у спрэчках. Вось якія чаромхаўскія жанчыны!

**Уладзімір СІДАРУК**

АДГАЛОСКА

## Перадрукі з раней выдадзеных кніг

Чытаючы артыкул Сяргея Чыгрына «Серп і цэп Алеся Барскага» ў «Ніве» № 5, кожны падумае, што выйшла кніга «Беларускі кнігазбор» з новымі творамі Алеся Барскага, бо аўтар артыкула нідзе не ўспамінае, што амаль усе артыкулы, за выключэннем артыкула Міхася Тычыны «Лірыка Алеся Барскага і Афіны Аляксандра Баршчэўскага», з'яўляюцца перадрукамі з іншых, раней выдадзеных, кніг, аб чым можам прачытаць у каментарыях да кнігі на стар. 399-406. Вершы Алеся Барскага передрукавалі з яго зборнікаў, старонак «Нівы» і літаратурных альманахаў , «Драматургію» — з «Літаратурнага альманаха 1965 года», многія яго артыкулы, як успомнены С. Чыгрыным «Аб цэпе і сярпе» і «Амерыка, якая ты?» — з кнігі Алеся Барскага «З пабачанага і перажытага», якая выйшла з друку ў 1992 годзе. У раздзеле «Літаратуразнаўства і крытыка» передрукавалі 7 аўтараў з 31 там надрукаваных з яго кнігі «Творцы беларускага літаратурнага руху 1958-1998», якая выйшла ў 2001 годзе. За гэты час і ў Сакрата Яновіча, і ў Яна Чыквіна, і ў Віктара Шведа выйшлі новыя творы, так што не ведаю ці ўсё, што там напісана, з'яўляецца цяпер актуальным. Калі б передрукавалі артыкул аба мне з гэтай кнігі, то многа ў ім было б неактуальнага. Шкада, што аб гэтым С. Чыгрын не паведаміў чытачам «Нівы».

**Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ**

# 10.02 — 16.02

**(22.03. — 20.04.)** Ніхто не паспее за тваімі задумамі. Падумай аб цырульніку і касметолагу — ніхто так табе не паможа, каб кінуць іншых на калені! Залатыя грашавітыя дні да 12.02. Да 12.02. можаш добра падзарабіць, штосьці танна купіць. З 14.02. удадуцца табе важныя экзамены, выступленні.

**(21.04. — 21.05.)** Добры час для здабывання ведаў, вучобы, наведання курсаў, семінараў, пошукаў працы. Новыя сувязі з партнёрамі на службе будуць моцнымі, калі наладзяцца ў чацвер. 9-13.02. пагражаюць табе кантузіі і пакалечанні, могуць паявіцца таксама сур'ёзныя праблемы ў адносінах з іншымі; хтосьці можа захацець табе зрабіць шкоду.

**(22.05. — 22.06.)** 10-14.02. зоркі падмацуюць у табе пачуццё задаволенасці, некалькі спраў элегантна завершыш, закрыеш. Паправіць стан рахункаў маеш шанц у палове месяца. Здабудзеш прызнанне, але і будзеш мець больш работы. Будзеш асобай незаменнай для іншых. Але пазбягай людзей, якія табе шкодзяць (асабліва калі ты народжаны паміж 6 і 10 чэрвеня).

**(23.06. — 23.07.)** Асабліва дбай аб сваё здароўе, калі ты нарадзіўся паміж 26 чэрвеня і 5 ліпеня. 9-11.02. адчуеш прылiў энергіі і аптымізму. Чакае цябе мілая неспадзяванка. Будзе моцна ўсхвалявана! 10-14.02. не кажы шэфу што мае рабіць, калі нават ведаеш лепш ад яго. Асабліва ў аўторак будзь вельмі акуратным на вуліцы.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш у змозе ачараваць кожнага (асабліва 10.02.). Усё на гэтым тыдні спрыяе каханню. Абавязкова гімнастыкуйся (хаця б расцягвайся, ды пастаянна). Асцярожна выдавай грошы, што зашчадзіш — адкладвай. У кар'еры лепшым ад дакладна апрацаванага плана можа быць шчаслівы збег выпадкаў.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш мець уражанне, што поўнасцю пануеш над сваім жыццём. Чулая рука лепшая чым цвёрдая. Дома будзеш мець заўжды рацыю. Наробішся моцна, ды з усім справішся прыпяваючы. На працы станеш за тым, хто мае рацыю, а не за тым, каго любіш, і за сваю аб'ектыўнасць можаш паплаціцца. Развітайся з салодкімі ласункамі.

**(24.09. — 23.10.)** Увесь месяц рамантычны, асабліва ў «валянцінкі». Не выседжвай дома. Дбай аб здароўе, прымяняй натуральную медыцыну. 9-13.02. усе будуць хацець на табе штосьці вымусіць. Не дайся, бо можаш шмат выйграць. Не ўлезь у якісьці тупік. У чацвер не еж цяжкіх страў. У пятніцу не бяры ў рукі агнястрэльнага ружжа.

**(24.10. — 22.11.)** 10-14.02. грошы самі прыйдуць да цябе. 13-17.02. умацуешся ў здаровым эгаізме, паставіш на свой развой; урэшце зробіш штосьці для сябе самога, а з-за гэтага будзеш мець выдатны настрой. Іграй у латарэю! У сераду былыя здарэнні прыгадаюць аб сабе. Суботняе новае знаёмства прынясе табе выгаду.

**(23.11. — 22.12.)** Маладзік Месяца 10.02. спрыяе знаходжанню новых знаёмстваў. На пераломе першай і другой дэкады лютага лёгка цябе разззлаваць; не фарсіруй сваіх задум праз сілу, не дзейнічай па прынцыпе „той лепшы, хто першы". Зашмат работы, замала часу. У здароўі не наракай, самарэалізуючы чорныя сцэнарыі, а дзейнічай.

**(23.12. — 20.01.)** 10-14.02. лёгка пасябруеш з новапазнанымі людзьмі. Тое, што ў гэты час навучышся, моцна ўб'ецца табе ў памяць. 9-13.02. можаш зрабіць глупства ці штосьці ляпнуць неўпапад, абразіць шаноўную асобу. Не пераборшчвай з алкаголем. Аж да 26.02. зоркі падтрымліваюць тваю фартуну.

**(21.01. — 19.02.)** Аж да 2.02. ты поўны красы і мілаты, што прыцягне да цябе іншых. Цяпер больш часу прысвяціш красе чым здароўю, не будзеш наракаць і на настрой. Будзеш ініцыятыўны, шмат што паправіш у сваім жыцці. Ды 10-14.02. будуць цябе прыгнятаць сумненні, будзеш раздражнены; хуткія рашэнні могуць быць цяжкімі, што можа адбіцца на шмат важных для цябе справах.

**(20.02. — 21.03.)** На галаву табе можа зваліцца шмат «хвастоў» і недаробак. Параніць цябе могуць словы важнай для цябе асобы. Дома можаш паладзіць адносіны. Будзеш ціхамірыць спрэчкі. Размовы пра хваробы могуць быць для цябе нават больш шкоднымі, чым наведванне хворых і заражанне. У панядзелак па меры магчымасцей не карыстайся іголкамі і нажніцамі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

1. вялікае афрыканскае дрэва, 2. галоўны гмінны чыноўнік, 3. раённы цэнтр на паўднёвым усходзе Брэсцкай вобласці, 4. волат са старажытнагрэчаскіх міфаў, 5. мангольскі ўладар, 6. вялікая афрыканская выспа на Індыйскім акіяне, 7. пеністы налёт на паверхні ўзбуранай вадкасці, 8. спорт Гары Каспарава, 9. паўночная суседка Тэхаса, 10. прыбор у выглядзе сталёвай вілкі, які выкарыстоўваецца для настройкі музычных інструментаў.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | | 2 | | | 3 | | | |
| | | | | | | | 4 | | | 5 | | | | |
| 6 | | | | | | | | 7 | | | | | | |
| 8 | | | | | | 9 | | | | | 10 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйскую пагаворку.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 1 нумара**

Ар, Жодзіна, Зеўс, рэч, стан, Чавусы, Шанхай, этыка.

Рашэнне: **Жанчына захоўвае сакрэт да сустрэчы з іншай**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Тэатральны новы пачатак

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Гэта быў першы такі візіт пры памяці цяперашніх працаўнікоў Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. У Мінску яго новая дырэктарка Агнешка Карыткоўская-Мазур размаўляла з кіраўнікамі Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі (РТБД), Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ды незалежных тэатраў: „Korniag Theatre", „ІнЖЭст", „Д.О.С.К.І.". Сустрэлася таксама з адным з найвыдатных беларускіх драматургаў Мікалаем Рудкоўскім, рэжысёрам (з „воўчым білетам" у Беларусі) Валерым Мазынскім, пісьменнікам і мастаком Артурам Клінавым, крытыкам тэатра Таццянай Арцімовіч. Не былі гэта звычайныя размовы, датычныя толькі абмену спектаклямі, як гэта ў прынцыпе бывала дасюль, але таксама і магчымасцей рэалізацыі супольных праектаў, у якіх могуць быць занятыя беларускія і польскія творцы.**



Перад РТБД Агнешка Карыткоўская-Мазур і Конрад Шчэбёт


Фае Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі


У гардэробе актрыс


„Тры Жызелі"

Падрыхтоўка візіту працягвалася роўна тры месяцы. Адбыўся ён па запрашэнні РТБД. Дырэктарцы Карыткоўскай-Мазур спадарожнічалі дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Падляшскай Маршалкоўскай управы Анатоль Вап, два члены Мастацкай рады „Вянгеркі" — тэатразнаўцы Конрад Шчэбёт і Мацей Халадоўскі ды мастак-фатограф Павел Гжэсь, якога выстава неўзабаве заінаўгуруе дзейнасць пастаяннай галерэі ў „Вянгерку".

— Тэатр гэта не толькі спектаклі, — ад пачатку мінскіх сустрэч пераконвала спадарыня дырэктарка.

Пасля завяршэння трохдзённага візіту паявіліся канкрэтныя планы. І так між іншым будуць рыхтавацца супольныя, двухмоўныя польска-беларускія спектаклі, стаўленыя заменна ў абедзвюх краінах, рэалізаваныя беларускімі рэжысёрамі і польскімі драматургамі або наадварот. Беларускія акцёры і рэжысёры маюць прымаць удзел у майстар-класах, арганізаваных Драмтэатрам у Беластоку. У рамках праводжаных у „Вянгерку" штомесячных г.зв. слап-чытанняў драм маюць прэзентавацца новыя беларускія п'есы, а беларускія рэжысёры будуць запрошаны да падрыхтоўкі пастановак у рамках гэтых чытанняў (мабыць, пазней да рэалізацыі поўных спектакляў). Супрацоўніцтва так з РТБД, як і з тэатрам імя Янкі Купалы мае не абмяжоўвацца да звычайнага абмену гатовымі спектаклямі, але маюць рэалізавацца супольныя праекты, гэта тычыцца таксама іншых тэатраў у лабараторна-эксперыментальным маштабе. Беларускія творцы тэатра будуць таксама запрашацца да шэрагу міжнародных праектаў, якія па ініцыятыве дырэктаркі рушаць у будучым сезоне.

## Слова пра гаспадара

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі ўзнік у 1990 г. на хвалі — як пасля аказалася — кароткачасовага дыху свабодай, дэмакратыяй, беларушчынай. Да 2000 г. кіраваў ім Валеры Мазынскі, які асуджаны ў Беларусі на творчае выгнанне за непакорлівасць Аляксандру Лукашэнку, праяўляючуюся ў сваёй творсаці. Новы дырэктар (ад гэтага сезона) папулярны акцёр Ігар Сігаў запрасіў да супрацоўніцтва на пасаду мастацкага дырэктара Аляксандра Гарцуева, вопытнага акцёра і рэжысёра, дагэтуль звязанага з тэатрам імя Янкі Купалы; спачатку ад 1980 г. быў у ім акцёрам, а ад 2000 г. — рэжысёрам. Мастацкае асяроддзе Мінска з прыходам абодвух, як сказала „Ніве" ў Мінску м.інш. Таццяна Арцімовіч, звязвае шмат спадзяванняў. Гэты тэатр за апошнія гады пад кіраўніцтвам Валерыя Анісенкі трапіў у мастацкі маразм і бачыўся, перш за ўсё гледачамі, як трэцярадны тэатр.

— Маё заданне — стварэнне ў Мінску і ва ўсёй Беларусі моды на тэатр, — сказаў у час адной з рабочых размоў з намі дырэктар Сігаў.

Прытым дадаў:

— Кантракт са мною падпісаны (Міністэрствам культуры РБ — М. Х.) толькі на год. Вясной акажацца, ці будзе ён прадоўжаны.

Сядзіба арандаванага РТБД цяпер гэта не толькі дзве сцэны (вялікая на крыху больш за дзвесце асоб і малая на каля сарака), але і зал-трэнажорня, і балетная зала, дзе штодзённа адбываюцца трэнінгі спеву, дыкцыі і іншыя заняткі, патрэбныя ў дасканаленні акцёрскага майстэрства. У мастацкім сезоне рэпертуар налічвае тут ужо каля дваццаці спектакляў (у беластоцкай Драме — некалькі). У фае — галерэя сучаснага мастацтва.

— Ні адзін са стаўленых спектакляў у сваім мастацкім пераказе не падобны адзін да аднаго, — запэўнівалі нас абодва дырэктары мінскага тэатра. — У аснове мусіць быць і ёсць новая драматургія.

Пры тэатры ад дзевяностых гадоў дзейнічае Цэнтр беларускай драматургіі і рэжысуры, кіраваны акцёрам Аляксандрам Марчанкам. Дырэктарка Карыткоўская-Мазур і з гэтым Цэнтрам звязвае вялікія спадзяванні на супрацоўніцтва. Акцёрскі калектыў, які налічвае больш за трыццаць асоб, гэта ракурс індывідуальнасцей і характараў. У фізічным плане амаль ніхто не падобны адзін на аднаго.

— Гэты калектыў нераспусны і нецынічны. Тут утульна ставіць, — заахвочваў дырэктарку Карыткоўскую-Мазур да рэжысуры ў РТБД Аляксандр Гарцуеў.

Прапанова была прынята.

## Слова пра спектаклі

Зараз пасля прыезду ў Мінск гаспадары ў РТБД прадставілі нам „Адвечную песню" ў рэжысуры Сяргея Кавальчыка паводле аднаактавай драматургічнай паэмы Янкі Купалы. Гэты спектакль ставіцца тут ужо дванаццаць гадоў і яго даўгавечнасць звянчана нават пры дапамозе зоркі вырытай у падлозе аднаго з тэатральных калідораў, побач якой мае быць створана цэлая алея, прысвечаная іншым папулярным прадстаўленням. Сярод часткі мясцовай публікі „Адвечная песня" да гэтай пары выклікае рознагалоссе. Адна з пажылых глядачак шапнула партнёру ў час спектакля: „Гэта ж класіка! Як так можна?.."

Гаворка пра яго фолькава-музычную форму, якая спасылаецца ў змесце на нацыянальныя каштоўнасці і традыцыі, расказаныя праз прызму чатырох пор года і розных этапаў жыцця беларуса, і пра селяніна, якога Янка Купала — як пасля у РТБД і гледача — паставіў перад пытаннем: „З чым мы прыйшлі на гэты свет?".

Пасля завяршэння візіту мы маглі паглядзець новы спектакль „Тры Жызелі" Андрэя Курэйчыка (1980 г. нар.) у рэжысуры мастацкага дырэктара тэатра. Гэта поўны трагічных, але і смешных тэм аповед, уплецены ў звіліны гісторыі і розныя пазіцыі іншых у адносінах да галоўнай гераіні. Дзеецца гэта ў Францыі ў 1940 г. ды ў беларускай вёсцы Карзуны ў 1957 і 1999 гадах. Аўтары спектакля ў дзвюх частках расказваюць: „Жыццёвы шлях жанчыны — заўсёды цікавая гісторыя. Пры гэтым, калі староннкі лёсу пачынаюцца менавіта ў сапраўднай Францыі, а спыняюцца ў ціхай беларускай вёсцы — абставіны захапляючыя ўдвая (...). Аб чым марыць маладая дзяўчына Жызэль, што адчувае дарослая жанчына Жызэль Купэс, кардынальна змяніўшая лёс, і аб чым шкадуе сталая „Жызэлька" ў акружэнні сваіх вясковых суседзяў? Спектакль, менавіта, аб гэтым. Але чаму падзеі склаліся наступным чынам? Што паспрыяла нечаканаму пераезду? Як адчувае сябе інтэлігентная француженка ў рэаліях звычайнай вёскі? І чаму напрыканцы жыцця даражэй за ўсе скарбы на зямлі для Жызэлі становіцца звычайная сіняя лямпачка?"

Перад пачаткам „Трох Жызеляў" у фае РТБД можна было прыкмеціць сцэнку, калі група маладых дзяўчат, заспетая відам ішоўшага Ігара Сігава, з піскам выхапіла свае мабільнікі і стала пстрыкаць яму серыі здымкаў, а пасля ў экзальтацыі пабегла за ім на паверх, дзе знаходзяцца сцэны арандаванага тэатра. Усе тут ведаюць яго таксама з кіно.

Першым вынікам візіту ў Мінск Агнешкі Карыткоўскай-Мазур мае быць візіт у адказ у Беласток прадстаўнікоў РТБД і іншых тэатраў, з якімі вяліся размовы (у той самы час або крыху пазней). Госці маюць прыехаць 2 сакавіка пры нагодзе прэм'еры „Чарнобыльскай малітвы. Last minute" паводле кнігі беларускай пісьменніцы Святланы Алексіевіч (да гэтага часу паказвалі толькі варыянт перфарматыўных чытанняў). Мабыць ужо позняй вясной з выпадку 500-годдзя Падляшскага ваяводства ў Беласток завітае тэатр імя Янкі Купалы са славутым спектаклем „Выкраданне Еўропы, або Тэатр Уршулі Радзівіл". Аб візіце ў гэтым тэатры ў Мінску і гэтым спектаклі — у адным з наступных нумароў „Нівы". А праз тыдзень — размова з Ігарам Сігавым і Аляксандрам Гарцуевым.

ISSN 0546-1960